# АПАВЯДАННІ

## ЗЯЛЁНЫ АГЕНЬЧЫК

Я люблю раённыя гарадкі, люблю маленькія ўтульныя гасцініцы з чыстай халаднаватай падлогай і рыпучымі ўсходцамі крутых лесвіц. Люблю зялёныя вуліцы, пранізаныя сонцам, начную цішыню, калі ў вокнах тухнуць агні, а ў гародчыках салодка пахнуць настурцыі і язмін.

Тут многае ўспамінаецца, добра думаецца.

У беленькі раённы гарадок я прыехаў у сярэдзіне лета. Якраз адцвіталі ліпы, пасыпаючы вуліцы дробным просам квецені, гулі і дзынкалі пчолы ў густым вецці прысад і ў пышных кветніках.

За шырокім гасцінцам, абсаджаным разгатымі вербамі, пачынаўся мокры луг, за ім шумела і набягала на бераг, іскрылася на сонцы і сінела ўдалечыні вялікае возера. А наўкол — лясы і лясы. Яны ўзбягалі на ўзгоркі, цягнуліся за небакрай і раставалі ў блакітнай смузе.

Я пасяліўся ў гасцініцы і адразу найшоў да возера. На вузкім пясчаным беразе ляжалі старыя прасмоленыя баркасы і скручаныя водарасці, бераг быў усыпаны дробнымі патрушчанымі ракаўкамі і рыбнаю лускою.

На возеры нікога не было. Недзе далёка-далёка пабліскваала мокрае вясло і чарнела хісткая рысачка чоўна; кружыліся і прыпадалі да вады невялічкія азёрныя чайкі ды шумелі і набягалі на бераг хвалі. Я сеў у стары баркас і доўга глядзеў на зіхатлівы азёрны прастор. У ім плылі белыя кучавыя аблокі, гайдалася і драбілася тысячамі прамяністых пырскаў сонца. Вецер пах вадою і смаловым настоем далёкіх і блізкіх бароў. Нікуды не хацелася спяшацца, ні аб чым не хацелася думаць. Так бы сядзець, маўчаць і глядзець на зачараваны азёрны прастор.

Але возера неяк адразу сцямнела. Сонца забегла за хмурынку і знікла зусім. Загусцела пасінелая вада, вецер пагнаў, закучаравіў грабянцы хваль. Я азірнуўся. На гарадок паўзла цёмна-шызая хмара з ружова-серабрыстымі беражкамі. Ніз яе быў размыты, нібы разарваны верхавінамі далёкага бору. Недзе ўжо ішоў дождж. А хмара імкліва напаўзала на гарадок і на возера. Усё наваколле пашарэла, патухлі фарбы і зніклі адценні.

Я выйшаў на пясок і заспяшаўся да гарадка. Зрываліся і шлёпалі па зямлі вялікія кроплі дажджу. Да гасцініцы, відаць, не дабегчы. Хоць бы схавацца пад якую-небудзь страху. Я павярнуў да хатак, што

стаялі пад крутою гарою. Толькі цяпер на самым яе версе я ўбачыў стромкі абеліск. Пад дажджом ён здаваўся адзінокім і чорным.

«Колькі партызан і воінаў пахавана ў нашай зямлі,— падумалася мне,— колькі асталося іх тут, на гэтым стромкім кургане. А ў вайсковых рэляцыях пра іх запісана суха і коратка — загінуў пры штурме вышыні N...»

Бліснула маланка. Яна раскалола шыза-малінавую хмару і змейкаю закруцілася над шпілем абеліска. Ударыў і пакаціўся гром, а дождж ужо хвастаў па лапушыстым лісці.

Я прытуліўся да цёплай, пачарнелай ад часу сцяны. Перада мною кацілася з даху іскрыстая і шумная заслона дажджу. Неба расколвалі блакітныя бліскавіцы, ад удараў грому пад нагамі ўгіналася зямля. Я туліўся бліжэй да сцяны, але дождж даставаў мяне і пад страхою.

Нехта пастукаў у шыбіну.

— Не мокніце, заходзьце у хату,— пачуўся жаночы голас.

Я падзякаваў і пабег на ганак. Прайшоў цёмныя сенцы, намацаў дзверы і пастукаўся.

— Заходзьце, калі ласка,— запрасіў той жа мяккі голас.

Я спыніўся ў парозе. З мяне на саматканы палавічок сцякалі цуркі вады. Я ўбачыў невялічкі чысценькі пакой, вазоны на вокнах і на шырокай лаве, бліснуў начышчаны бок самавара.

— Праходзьце, вешайце пінжак каля печы,— сказала гаспадыня. Я толькі цяпер разгледзеў яе: светлыя валасы не то выгаралі, не то пасівелі на скронях; круглы, крышку рыхлы твар свяціўся дабратою і спакоем.

Над самаю страхою пракаціўся гром, аж пад нагамі асела падлога. Я інстынктыўна адсунуўся ад акна.

— Не бойцеся, тут не страшна, навальніцы літуюць нас,— супакоіла мяне гаспадыня, а я нецярпліва пазіраў у акно, чакаючы, калі пройдзе дождж. Толькі цяпер я заўважыў, што хата стаіць каля самае гары, бачыў, як па крутых глiністых схілах бягуць каламутныя ручаіны, зліваючыся ў шырокі паток. З акна быў добра відзён высокі шэры абеліск, і я зноў падумаў пра салдат, пахаваных на гэтым узвышшы.

Каб не маўчаць, я сваю здагадку выказаў гаспадыні.

— Не, гэта магіла доктара,— папраўіла жанчына.— Які быў чалавек! — Яна ўздыхнула і памаўчала.

Мне адразу захацелася, каб дождж ішоў даўжэй, а гаспадыня расказвала ўсё, што ведае пра чалавека, пахаванага пад гэтым абеліскам.

І яна расказала.

У першыя гады рэвалюцыі, калі мерзла і галадала Расія, сюды з вялікіх гарадоў прыязджалі незнаёмыя людзі. І гаварылі яны не так, як тутэйшыя, і апрануты былі па-гарадскому, і трымаліся неяк асобна. Былі настаўнікі і каморнікі, адвакаты і ветэрынары. Нават прыехаў дыякан. Маленькі, чорненькі, а як раўне, дык шыбы звіняць і свечкі тухнуць у царкве. Казалі, што быў ён некалі артыстам, спіўся і пайшоў бадзяцца з парафіі ў парафію.

Хто з наезджых прыстроіўся на службу, а хто хадзіў па сёлах, выменьваў гарадскія сукенкі на муку і неяк жыў на дзяшовых харчах. А як стала лягчэй, раз'ехаліся хто куды — ні следу, ні памяці ад іх не асталося.

Не паехаў толькі малады вясёлы доктар. Звалі яго Леанід Андрэевіч. Далі яму пакойчык у былой земскай бальніцы. Толькі назва была, што бальніца: разгароджаны двор зарос палыном і крапівою, дах згніў, печы пазавальваліся, дымілі і не грэлі. Раней тут гаспадарыў стары фельчар, горкі п'яніца і марфініст. Можа і выдумлялі людзі, але казалі, што нейкай кабеце ён паставіў банкі на кажух. Тая думала, што так трэба, і маўчала.

А Леанід Андрэевіч сабраў людзей, пагаварыў з імі, і назаўтра знайшліся і печнікі, і сталяры. З месяц перакладалі печы, перасыпалі ганкі, гарадзілі платы, крылі дах. Жанкі назносілі алею, наварылі пакосту, памалявалі падлогу і вокны, закітавалі шыбы, і бальніца стала як бальніца, жывым цяплом зажыла.

Ад світання да поўначы не выходзіў з яе прыезджы доктар. Ён рабіў аперацыі, прымаў парадзіх і ездзіў на старэнькім веласіпедзе па сёлах да хворых, расказваў, як і ад якое хваробы ратавацца. Людзі паверылі яму і паехалі ў бальніцу німалад адкуль са сваімі немачамі і бядою. У поўнач і на світанні стукаліся ў доктарава акно. А ён, здавалася, толькі і чакае гэтага стуку. Усхопіцца, накіне пацёрты палітончык, выбежыць на ганак з маленькім саквояжыкам і просіць: «Хутчэй, толькі хутчэй. Доктар не мае права пазніцца». І трасецца ў сялянскіх драбінах ці ў санях у дождж і ў мяцеліцу, абы толькі паспець да хворага.

Праз год, неяк пад вясну, прыехала да яго прыгожая статная жанчына. Ні з кім яна не знаёмілася, ні з кім не гаварыла. Усе заглядаліся на яе, адны зайздросцілі ёй, другія — Леаніду Андрэевічу.

Нанялі яны па суседству з бальніцаю кватэру, але хутка і да яе пратапталі сцежку людзі з далёкіх і блізкіх вёсак.

Спярша Леанід Андрэевіч хадзіў вясёлы і шчаслівы, памаладзелы і пахарашэлы. А потым спахмурнеў, пастарэў і неяк звяў. Бывала, у

яго спытаеш што-небудзь, а ён нібыта і не чуе, потым спахопіцца, перапытае і толькі вінавата ўсміхнецца. Я тады якраз толькі скончыла школу міласэрных сясцёр і прыехала сюды...— жанчына ўздыхнула і горка ўсміхнулася.— Так і асталася тут дажываць свой век... Такія людзі, як Леанід Андрэевіч, не часта сустракаюцца ў жыцці.

Прывязуць, бывала, з вёскі старэнькую бабку. Енчыць, бедная, на возе, варухнуцца не можа. А доктар ужо бяжыць да яе. Пакуль збіраюцца санітары, ён возьме на рукі сухенькую бабульку, сам пакладзе на насілкі, загадае паскідаць зрэбнікі, памыць, адзець ва ўсё чыстае. Агледзіць, распытае, развяселіць старую. Ноччу прыйдзе, супакоіць, суцешыць — назаўтра сама просіцца, каб зрабіў аперацыю. Аперацый тады ўсе баяліся, а яму верылі, казалі, рука лёгкая і сэрца добрае.

Тыдні праз тры тупае тая самая бабулька ў бальніцу. У руцэ клуначак, завязаны ў беленькую паркалёвую хустачку. Няўжо зноў занядужала? А яна стане на ганку, мыляецца і ўсё некага цікуе. Убачыць Леанід Андрэевіч сваю пацыентку, запросіць у пакой, распытае, што і як.

«А доктарка даражэнькі, дай жа вам бог здароўя. Ажыла зусім. Адкуль і сілачка тая ўзялася. Блізкі свет, а от бачыце, сама прытупала і ні разу не аддыхнула». І бабулька працягвае доктару свой клуначак. Ён адмахваецца, абураецца, кажа, што гасцінцамі зневажаюць яго, а бабка божыцца, што яечкі свежанькія, і тупае за дзверы. Тады Леанід Андрэевіч кліча каго-небудзь з бальнічнай кухні і аддае ўсё ў агульны кацёл.

А бабка ішла шчаслівая, што аддзякавала доктару.

Я моўчкі слухаў жанчыну і разумеў, што ёй трэба выгаварыцца, а можа зноў перажыць дарагія ўспаміны.

— А як надышла восень, апусцела возера, зрабілася маркотна ў нашым гарадку, занудзілася прыгожая доктарава жонка. У іхнім доме да поўначы гарэла вялікая лямпа, а праз запацелыя шыбы плылі гукі піяніна. Яго пакінулі ў гэтым доме ранейшыя гаспадары, што ўцяклі з белапольскімі легіянерамі. Над піяніна вечарамі сумавала адзінокая прыгожая жанчына. Звалі яе, здаецца, Ева Браніславаўна. А Леаніду Андрэевічу ўсё не было часу пасядзець з ёю. Не забегшы дадому, ён спяшаўся ў далёкую вёску да дзіцяці, што задыхалася ад дыфтэрыі, начамі не адыходзіў ад ложка селькора, параненага з кулацкага абрэза, ці ад хлапчука, абгарэлага на пажары.

Ева Браніславаўна ўпрошвала мужа вярнуцца ў горад, да радні, да сяброў, да «чалавечых умоў», як яна казала.

«Ну як я пакіну параненага хлапца, не паставіўшы яго на ногі, як не выратую маці семярых дзяцей, ці маю я права не паехаць да лесаруба з адкрытым пераломам? — пытаўся ён.— Уцяку, пакіну іх — і прыбавіцца на вясковых пагостах дзесятак магіл, а ў хатах будуць галасіць сіраты і ўдовы. Я хачу, каб шчасліва жылі гэтыя людзі, каб меней было слёз і пакут».

«А за што мушу гінуць я ў гэтай глушы? Ты няўдзячны эгаіст, сябелюбец, уся твая папулярнасць толькі ў каравых бабулек і ў свінапасаў, а я хачу жыць сярод інтэлігентных людзей, слухаць музыку, хадзіць у тэатр, мець цікавых сяброў. А ты? Ты пахаваў свой талент у гэтых катухах, што завеш бальніцаю».

— Можа гэта і нядобра, але аднойчы, не хочучы таго, я падслухала такую размову і запомніла слова ў слова. Успомню, здаецца, і цяпер не замоўклі іх галасы, хоць і прайшло з тае пары ўжо не адно дзесяцігоддзе.

На пачатку зімы Ева Браніславаўна паехала адсюль. Леанід Андрэевіч суцяшаў яе, абяцаў дразу ж прыехаць, як толькі прышлюць яму замену.

Замены ён так і не дачакаўся. Нудзіўся, сумаваў, а каб не сядзець аднаму ў пустой хаце, днём і ноччу прападаў у бальніцы. Часамі ў глухія ночы з яго кватэры чулася тая самая мелодыя, якую некалі іграла яго жонка. Відаць, успамінаў, журыўся і думаў пра яе, а на людзях заўсёды быў вясёлы, гаваркі і спакойны.

Міналі гады, а наш доктар так і жыў бабылём. Спярша яшчэ калі-небудзь ездзіў у той далёкі горад, а потым зусім перастаў. Чаму? Сам нікому не расказваў, а пытаць ніхто не адважваўся.

Летам, калі бывала спакойна ў бальніцы, па тыдні плаваў з рыбакамі, разам цягнуў невад, раскладаў вогнішчы і варыў юшку. Зімою на лыжах за дзень абыходзіў некалькі вёсак, і ўсе яго ведалі, усе яму былі рады.

Вяртаўся ружовы, вясёлы, памаладзелы, хоць і густа прабілася сівізна ў яго валасах.

У трыццаць шостым годзе ледзь не ўсё лета ў нас бушавалі навальніцы. Зранку парыць — не прадыхнуць, а пад вечар насунуцца хмары і пачынае смаліць, аж зямля калоціцца. Сённяшняя навальніца — проста забаўка. А тады аж шэсць чалавек загінула ад маланкі.

Леанід Андрэевіч не знаходзіў сабе месца. Ён хадзіў да старшыні райвыканкома, патрабаваў, каб паставілі громаадводы, пісаў у Мінск і дамогся-такі, што ў некалькіх вёсках паставілі высокія жэрдкі з дротам. Крыху паспакайнела, але ўсё роўна то там, то тут запаліць гумно ці хату...

Мая субяседніца ўздыхнула і падышла да акна. Дождж сціхаў. Па двары беглі шумныя каламутныя ручаіны, а на вялікіх лістах гарбузіка, нібы жывое срэбра, перакочваліся і дрыжалі буйныя дажджавыя кроплі.

— Бачыце, зусім загаварыла вас. І то пятае цараз дзесятае, а ўсяго і за тры дні не раскажаш. Але вы пыталіся пра помнік. Дык вось. За год да вайны, у самы разгар лета, Леанід Андрэевіч зрабіў тры цяжкія аперацыі. Да вечара не выходзіў з палаты, а як змерклася, пайшоў на возера. Ён заўсёды любіў падоўгу сядзець на беразе, глядзець удалеч і маўчаць. Так было і ў той вечар.

Назаўтра раніцаю я ішла на дзяжурства каля яго кватэры. Сонца даўно ўзышло, а ў яго хаце, гляджу, гарыць святло. Падумала, што доктара ноччу выклікалі і ён не паспеў выключыць лямпу. Але ў бальніцы доктара не было. Пайшлі мы з фельчарам на кватэру, пастукалі — ніхто не адзываецца. Зірнула я ў акно і асунулася.

Калі збегліся людзі, вырвалі зашчапку, наш доктар ужо быў халодны... Параліч сэрца. На стале гарэла лямпа, а на падлозе ляжала кніжка...

Хаваць Леаніда Андрэевіча з блізкіх і далёкіх вёсак сышліся тысячы людзей. Жанкі галасілі, як па родным сыне, каціліся слёзы па шчоках мужчын і дзяцей. А рыбакі пайшлі да начальства і сказалі, што хочуць пахаваць свайго доктара на самым версе гары, каб адтуль было відно ўсё возера і далёкія лясы.

Дамавіну, укрытую кветкамі, неслі на плячах рыбакі па крутым схіле гары...

Мабыць, каб не расчуліцца ад успамінаў, яна зноў падышла да акна і паказала той схіл, па якім цяпер збягалі струмені вады.

— Над магілаю рыбацкі брыгадзір казаў, што Леанід Андрэевіч марыў і пасля смерці служыць людзям. Ён хацеў на гэтай гары паставіць самы высокі громаадвод і збудаваць маяк, каб відзён быў і з таго берага, каб свяціў на ўсю ваколіцу. Не паспеў доктар, дык давайце мы паставім яму такі помнік, каб ніколі не забываліся людзі пра чалавека, які жыў для нас.

Вось і паставілі гэты абеліск. Бачыце наверсе тонкі жалезны штыр? Ён напамінае пра тое навальнічнае лета. Начамі на помніку загараецца агеньчык. На яго плывуць рыбакі з начнога лову. З усіх дарог ён відзён.

Яна змоўкла. Пра многае хацелася яшчэ распытаць, але звычайная цікаўнасць тут была б лішняя.

Я падзякаваў за гасціннасць і за ўсё, што мне рассказала гэтая адзінокая кабета. Дождж прайшоў, толькі ў каляінах булькалі каламутныя струменьчыкі ды было чутно, як шуміць разгайданае возера.

Ноччу не спалася. Я пайшоў блукаць па сонным гарадку. Было ціха і свежа, над возерам слаўся туман, за далёкімі лясамі ўспыхвалі зарніцы, а высока над гарою загараўся і міргаў зялёны агеньчык.

Куды б я ні ішоў, ён свяціў мне, і здавалася, недзе побач жыве неспакойны і добры доктар.

1963

# ГАННА

Пад вечар брыгадзір прывёў мяне ў прасторную хату на канцы сяла.

— Можа пусціш, цётка Ганна, чалавека пераначаваць, а то куды ні ткніся — дзяцей пад самую завязку, а ў цябе і прасторна, і чыста, і ціха.

— Не бог ведае якія і ў мяне палацы,— азвалася немаладая жанчына, адхінуўшыся ад печы.— Калі няма дзе, хай начуюць, месца хопіць.— Яна паглядзела на мяне, нібы ацэньваючы, ці варта пускаць у хату незнаёмага чалавека. Хваліць самому сябе няёмка, прасіцца няма патрэбы, калі за цябе гэта робіць нехта іншы.

Цётка Ганна выцерла фартухом доўгую лаву каля стала і запрасіла сесці. Брыгадзір, відаць, быў рады больш за мяне, што збыў клопат і можа спакойна ісці дадому. Але адразу павярнуцца і пайсці, напэўна, было не зусім ёмка. Ён дастаў пакамечаны пачак «Прыбой», пакруціў у парэпаных пальцах пагнутую тоненькую папяроску і са смакам закурыў. Я распрануўся і сеў на лаве каля акна.

Гаспадыня доўга мяне разглядала і лагодна спытала, дзе жыву і кім служу.

Я расказаў, хто і адкуль, чаго прыехаў у іх калгас, і адразу супакоіў яе, што заўтра раніцаю падамся ў суседні раён.

Брыгадзір дакурыў цыгарку, патаптаўся ў парозе, развітаўся і пайшоў. Цётка Ганна ўпраўляецца каля печы. Мы маўчым. Я аглядаю хату. Яна нагадвае тую, дзе некалі вырас і я: замазаныя глінаю пазы затынкаваных сцен са слядамі дужых шырокіх пальцаў, чыста вышараваная падлога, на стале — саматканы абрус з шырокаю прошваю. У хаце пахне рошчынаю і сырымі смалякамі. На тумбачцы стаіць невялічкі прыёмнік, а над ім у зашклёнай рамачцы адзіны ў гэтай хаце партрэт маладога сержанта. Прыгожы бялявы хлопец нечым нагадвае Ясеніна.

Каб неяк завязаць гаворку, пытаюся ў гаспадыні:

— Сын?

Яна толькі кіўнула галавою.

— Відаць, служыць яшчэ?

— Прыйшоў, дзякаваць богу, а цяпер на шофера ў раёне вучыцца, трэці месяц, як там. У суботу вечарам прыбяжыць, дроў наколе, вады наносіць, двор падграбе, а ў панядзелак на досвітку — зноў паляціць. Скора вернецца зусім, тады і мне весялей будзе. А то дзень пры дні адна, як той таўкач, сноўдаюся па хаце, і слоўца няма

каму сказаць. Пакуль служыў, толькі і жыла яго пісьмамі, а цяпер, пакуль прычакаеш тае суботы, усе вочы прагледзіш.

— Прыедзе з курсаў, а там, глядзіце, і нявестку прывядзе, унукі закугакаюць. От тады весела будзе,— пажартаваў я.

— Дай жа божачка... Родная мамка не прычакала, дык можа я дажыву.

Я крыху разгубіўся, не ведаючы, што казаць. Распытваць, кім даводзіцца хлопцу яна, не адважваўся, каб не ўразіць самае балючае ў сэрцы гэтай немаладой спрацаванай жанчыны, змаўчаць, прыкінуцца, што не пачуў ці не зразумеў, што яна сказала, таксама няёмка. Падумалася — распытаю заўтра ў суседзяў, але і абразіць яе абыякавасцю ніяк не выпадае. Мнуся і маўчу, думаю, як далікатней пачаць гаворку.

Цётка Ганна тупае каля печы. На прыпечку на трынозе ў маленькім чыгунчыку булькае бульба, патрэскваюць смалякі, на сцяне, супроць печы, дрыжыць няроўны бляск агню. У гэтым аранжавым крузе то з'яўляецца, то знікае сагнуты цень гаспадыні. Я бачу яе вялікія вузлаватыя рукі з набрынялымі жыламі, з-пад белай хусцінкі выбілася пасма шэрых валасоў. Відаць, некалі яны былі чорныя, а цяпер да іх прымяшалася густая сівізна. Цётка Ганна падобна на ўсіх тых адзінокіх вясковых кабет, што зведалі многа працы і гора і так мала бачылі радасцей.

У хаце цішыня і змрок, пад акном, у гародчыку, гойдаюцца чорныя сілуэты вяргіняў і шуміць тонкая вішанька, асенні вецер трымціць незакітаванаю шыбінаю. У такую шарую гадзіну ўспамінаецца далёкае маленства, робіцца цёпла і крышку сумна на душы.

— Чаго ж мы сядзім упоцемках? — спахапілася цётка Ганна, падышла да сцяны, пстрыкнула выключальнікам. А мне яшчэ хацелася пасядзець у поцемках асенняга надвячорка, паслухаць, як шуміць вішанька і звініць шыбіна ў акне.

На стале ў вялікай паліванай місцы дымілася сопкая бульба, на сподачку ляжалі скрылёчкі ружовага з прорасцю сала і стаялі крамяныя салёныя агуркі. Яны моцна пахлі кропам і вішнёвым лістам. Я хацеў падзякаваць і сказаць, што павячэраў у сталоўцы, але хіба можна адмовіцца ад такога пачастунку! Мы селі за стол. Цётка Ганна астудзіла бульбіну, зірнула на мяне добрымі, глыбока запалымі вачамі, мабыць, адчула, што мне не даюць спакою пытанні, а можа і таму, што кожнаму чалавеку рады ў гады хочацца расказаць пра самае запаветнае. Яна спакойна, нібы працягваючы толькі што перапыненую гаворку, пачала:

— Дзяцей у мяне ніколі не было, і сям'і сваёй не мела. Адзінокая я. Так бы адна і звекавала. А ў вайну як дачуліся нашы мужчыны, што немцы ўжо ў раёне, пабралі пілы і пачалі валіць лес на шлях — крыж-накрыж, сасну на сасну. За двое сутак загацілі дарогу да самага сяла, а самі, хто з дубальтоўкаю, хто з сякераю, падаліся ў лес. Пазней у іх і аўтаматы і кулямёты аднекуль узяліся. А дзе яны ў першыя дні тых мінаў набралі, ніхто не ведаў, але пачаплялі іх ледзь не пад кожную дзеравіну. Паткнуліся немцы на дарогу, ды назад, бачаць — без галоў астануцца. Тады пагналі паліцаяў. Ну ж і палягло гэтых бобікаў, пакуль дапялі да нас. Уварваліся ў сяло, а следам за імі ідуць гэтыя вылюдкі з труп'імі галоўкамі на шапках. Перавярнулі ўсе хаты, пуні абшасталі, стагі развярнулі, а мужчын — трасцу, аніводнага няма. Тады за баб узяліся. Відаць, падтыкнуў нехта — чые падаліся ў лес.

На вуліцу павыганялі босых і проставалосых. Толькі ўдоў і незамужніх не чапалі. А ў Алены, царства ёй нябеснае, дзіцятка маленькае на руках.

Накінула яна доўгі кажух, затуліла ім хлопчыка, грудзі дала, каб не плакаў, і стала разам з усімі. А на дварэ ўжо добра падшэрхла, і сняжок пачаў церусіць. Стаяць, гаротніцы, апусцілі галовы, маўчаць. А нейкі маленькі тоўсценькі немчурок па-нашаму ўсё дапытваецца:

— Куды пахавалі сваіх бандытаў? Паказвайце, а то пастраляем.

А жанкі зноў сваё:

— Ні сном ні духам не ведаем, куды яны скруціліся.

Да змроку біліся з імі тыя, з труп'імі галоўкамі на шапках, так нічога і не выпыталі. Потым, мабыць, старшы, у акулярах, нешта каркнуў, і паліцаі пачалі рулямі папіхаць жанок у спіны, прыкладамі біць і пагналі ўсіх на той канец сяла, у хвойнічак. Сэрца ў мяне так і зайшлося, хата кругам паплыла, хацелася кінуцца ўслед, енчыць, прасіць, маліць, каб зліталіся. Ды хіба ж іх упросіш: не людзі гэта — ваўкі кручаныя.

Цётка Ганна ўздыхнула, памаўчала з хвіліну, адсунула астылую бульбіну.

— Толькі дайшлі яны да ўзгорачка, нешта бліснула, нібы засвяцілі сярнічку, і адразу — бах, бах! Чую лямант, глухі крык, потым затарахцела нешта, як гарох па блясе, і ўсё змоўкла. Я як стаяла ля акна, так і спаўзла на падлогу, нібы куля звала і мяне. Колькі так праляжала, і сама не ведаю! Адышла, як ужо добра сцямнела. Глянула — хоць бы табе дзе агеньчык, хоць бы іскарка бліснула — чарната. Як вымерла сяло. Страшна стала, за глотку нешта душыць, у роце

высахла. Паціхеньку выйшла на вуліцу. Бачу — храпу на дарозе размясілі шырокія колы грузавікоў. Значыць, паехала нячыстая сіла...

Як апынулася ў хвойнічку, і сама не ведаю. Усё калоціцца ўсярэдзіне, ногі не слухаюцца. Узышла на ўзгорак, а там — покатам ляжаць маладзіцы, ужо і сняжок іх пачаў прыцярушваць. Не плачу, а слёзы вочы заслалі і самі цякуць, губы скусала да крыві, скамянела ад страху. Хто ж мог падумаць! Яшчэ ў абед мы з Аленаю разам на жорнах ячмень абдзіралі, збіраліся кросны снаваць... і на табе. Як глянула, нема загаласіла і ўкленчыла каля яе. Аж чую, нешта варушыцца пад кажухом і ціхенька ўсхліпвае. Падпаўзла бліжэй, думаю, жывая, расхінула кажух — аж хлопчык, жывенькі, прытуліўся да схаладзелага матчынага цела, толькі ножка з пялёначкі вытыркнулася і пабялела.

Ухапіла я Лёнечку, скінула з сябе світку, загарнула яго і бежкі дадому. Усю дарогу хукала на яго. Ускочыла ў хату, запаліла ў печы, нагрэла чыгун вады, паздымала пялёнкі, што зліпліся ад матчынай крыві, абмыла яго, загарнула ў чыстае прасцірадла. Так ён на руках у мяне і заснуў.

А раніцаю сабраліся ўсе нашы кабеты, выкапалі адну доўгую магілу, залілі яе слязьмі і пахавалі няшчасных.

Там цяпер помнік стаіць і дзве рабінкі растуць, можа бачылі? Гэта іх Лёнька пасадзіў, як падрос.

А пакуль акрыяў, усяго нацярпелася. Кароўкі ў мяне не было, сама нішчымніцу ела ўсю вайну, а малое дзіця без малачка на ножкі не паставіш. Дзякуй ім, бабы кожны дзень прыносілі, хто шклянку, хто паўшклянкі, а хто і смятанкі сподачак. Так і паднялі хлопца ўсёю вёскаю.

Пра бацьку казалі, што недзе пад Варшаваю галоўку склаў. А мы так з Лёнем удваіх і гаравалі. Усяго было. Вучыўся ён добра, дзесяць класаў кончыў. Прасіла, каб куды далей падаваўся, на інжынера якога ці аграсома, дык не, і слухаць не хоча. Відаць, мяне кідаць шкода. От так і жывём удваіх.

Яна замоўкла. Даўно ў місцы астыла бульба, на прыпечку дагарэлі смалякі. Ад іх асталася толькі грудка белага попелу. Цікалі ходзікі, і шумела пад акном тонкая вішанька. Відаць, і яе пасадзіў Лёнька.

Больш не хацелася ні пра што распытваць цётку Ганну, не хацелася гаварыць пра іншае: усё здавалася мізэрным і дробным пасля таго, што яна расказала.

Мы доўга сядзелі моўчкі. Толькі было чутно, як у шыбіну стукаюць мокрыя галінкі.

1962

## ТАК І БЫЛО

Даўно не быў Андрэй Далініч на радзіме. Колькі разоў збіраўся і ўсё адкладваў сустрэчу з мясцінамі, дзе прайшлі маленства і маладосць: то не было калі, то баяўся, што прыедзе і не пазнае хаты, садкі і гародчыкі, якія на ўсё жыццё захавала памяць А яму хацелася верыць, што там усё такое ж, як і два дзесяцігоддзі назад,— дзеці засталіся дзецьмі, яго равеснікі — усё яшчэ юнакі, а старыя ў тым жа ўзросце, як і тады, калі Андрэй расстаўся з імі. Хацелася хоць на дзень завітаць у сваё юнацтва, пазнаць кожную сцяжынку, кожную прысаду, сустрэць даўніх сяброў, нібыта і не разлучаўся з імі.

Андрэй ведаў, што час усё змяніў і паставіў на свае месцы, ведаў, што вайна напалову спапяліла яго драўлянае палескае мястэчка, што многіх равеснікаў і сяброў даўно няма на свеце, што выраслі новыя людзі, што нанава забудаваліся вуліцы. А ўспаміны часцей і часцей непакоілі яго, нейкая сіла цягнула і клікала ў родныя мясціны, хоць і ехаць не было да каго: бацькі даўно памерлі, родзічы раз'ехаліся хто куды. Але ўсё ж ён сабраўся ў дарогу.

На аўтобусным вакзале поўна людзей, з чамаданамі, партфелямі, мяхамі і кошыкамі. Маладыя, старыя і дзеці. На вакзалах заўсёды здаецца, што нікому не сядзіцца на месцы, што ўсе некуды едуць, спяшаюцца, нервуюцца, а часам без дай прычыны штурхаюць і абражаюць адзін аднаго, хоць сустрэліся першы і, мабыць, апошні раз.

Андрэй адшукаў акенца, над якім вісеў доўгі спіс гарадоў, пасёлкаў і вёсак. Сярод іх была назва і яго мястэчка. Ён агледзеў доўгую чаргу — ніводнага знаёмага. А некалі адразу знаходзіў сваіх, кожны гатоў быў узяць яму білет, заняць у аўтобусе месца.

А як было весела ехаць на канікулы: цесна сядзелі крыху агаладалыя, стомленыя сесіяй, але заўсёды вясёлыя і вострыя на язык студэнты, смяяліся, дабрадушна жартавалі адзін з аднаго, спявалі песні аж да самага дому. Дзе яны цяпер, сябры і равеснікі?

Андрэй яшчэ раз агледзеў чаргу — усе незнаёмыя. Пры самым акенцы стаіць высокі, у саламяным капелюшы, у новым цёмназялёным касцюме малады чалавек, ён трымае маленькі саквояжык і набітую пакуначкамі гаспадарчую сетку. Хто ён? Напэўна, доктар. А дзе ж колішні земскі ўрач Аляксандр Сцяпанавіч? Ён заўсёды хадзіў вось з такім саквояжыкам, толькі старым і пацёртым. Ён сустракаў кожнага новага чалавека, што з'яўляўся на свет, ён першы прыходзіў у дом, дзе было гора. Аляксандр Сцяпанавіч ведаў усіх, і ўсе ведалі і шанавалі яго. «Калі жывы, трэба будзе абавязкова адведаць»,—

падумаў Андрэй і стаў у чаргу за высокаю прыгожаю дзяўчынаю. Яна нават не азірнулася. Чыя б гэта магла быць?

— Вы да Гаці? — спытаў Далініч, спадзеючыся завязаць гаворку. Дзяўчына глянула на яго, коратка адсекла: «Так»,— і адвярнулася.

Андрэй успомніў, што гадоў дваццаць назад і незнаёмыя дзяўчаты адказвалі яму куды далікатней і ласкавей, а цяпер, відаць, адразу заўважаюць яго сівізну, прыпухліны пад вачамі і дзве глыбокія разоркі, што ляглі каля губ. Ён зноў падумаў: «Ці варта ехаць? Каго я там сустрэну, хто абрадуецца мне? Можа, як у гэтай чарзе, не сустрэну ніводнага знаёмага чалавека?»

За ім станавіліся з выгаралымі на сонцы чубамі хлопцы. Мабыць, студэнты. Па колькі ім можа быць? Іх, відаць, яшчэ і на свеце не было, калі Андрэй апошні раз выехаў з дому. Чые ж яны? Можа гэтая суровая з выгляду дзяўчына — Броніна дачка? Андрэй пачаў углядацца ў твары, шукаць падабенства, якое бывае паміж дзецьмі і бацькамі, але так і не знайшоў. Заняты думкамі і ўспамінамі, ён дайшоў да касы.

— Адзін да Гаці,— сказаў ён і толькі цяпер адчуў, як забілася сэрца, як хваля дрыготкай радасці і тугі падступіла да горла. Ён даўно ўголас не гаварыў гэтае слова, але яно заўсёды жыло ў яго памяці, як матчына імя, як самая дарагая на зямлі назва. Ён часта марыў: «Калі б толькі пусцілі, на карачках папоўз бы туды, каб толькі дакрануцца да роднай зямлі, а там і паміраць не страшна». Ён часта да болю выразна бачыў вузенькія вулачкі ў прысадах і садах, паплавы ў кураслепе, зарослы алешнікам і парэчкамі астравок пасярэдзіне Пцічы, высокі зялёны вал на самым беразе, што заставаўся ад старасвецкага замчышча князёў Гальшанскіх, а за валам — высозны белы касцёл з дзвюма званіцамі, густыя кусты бэзу і старыя пахілыя вербы. Колькі світанняў сустрэў Андрэй пад гэтымі вербамі ў пару свайго юнацтва, колькі зорак над ім праляцела, пра што ён толькі тут не марыў, якія словы ні шаптаў, трымаючы гарачую далонь першай каханай! І яна перад ім ажыла, чыстая і светлая, маладая і шчаслівая, з пышнымі русымі валасамі, што пахлі рамонкамі і мятай.

«Якая яна цяпер? Колькі ёй год? Яна ж амаль мая равесніца,— думаў Андрэй.— Як яе называць? Броня? А можа ўжо афіцыйна — Браніслава Аляксандраўна? Як цяпер яе прозвішча?» Ён разумеў, што ўжо не можа не ехаць, і часта пазіраў на гадзіннік, чакаючы, калі падыдзе аўтобус.

Андрэй заняў месца каля акна і, як толькі выехалі з горада, пачаў углядацца ў некалі да драбніц знаёмую дарогу, шукаць даўнія прыкметы, але не знаходзіў іх. Злева і справа бялелі камяніцы новых

школ і клубаў, роўнымі радамі прабягалі маладыя сады, а на небасхіле мільгалі слупы высакавольтнай лініі. Ён маўчаў, заняты сваімі думамі, але ўважліва прыслухоўваўся да гаманы пасажыраў, спадзеючыся пачуць хоць адно знаёмае прозвішча.

У аўтобусе станавілася горача. Сціхалі галасы — пасажыраў хіліла на сон. Не спалася толькі Андрэю: было крышачку горка, што сярод землякоў ён зусім чужы. Мабыць, лічаць яго нейкім камандзіровачным — штурхачом па кукурузе або па льну.

Пасля паўдня ўбачыў знаёмыя краявіды: на жаўтапеску сіняватыя хвойкі з ружовымі пальчыкамі парасткаў, на ўзгорках гаі, а як выскачылі за паваротак дарогі, заіскрылася на сонцы рака. Яна здалася Андрэю вузенькаю і ціхаю. Паміж купамі густых дрэў паказаліся дамы .і хаты, новыя гонтавыя дахі і тонкія, як нітачкі павуціння, антэны. Пасажыры адразу заварушыліся, пачалі здымаць набітыя абаранкамі сеткі, разбіраць свае чамаданы.

— Што, пад'язджаем? — спытаў Андрэй у свайго суседа, таго маладога чалавека, якога ён палічыў доктарам.

— І на паўгадзіны раней,— адказаў той.

— А я дык нічога не пазнаю. Некалі кіламетраў за дванаццаць быў відзен касцёл, а вунь там стаяў млын, ды і рака здавалася шырэйшаю.

— Выходзіць, вы пасля вайны тут і не былі. Касцёл разбамбілі ў сорак другім, а рака сапраўды абмялела: лес высеклі немцы, баяліся партызанаў, а пасля вайны самім прыйшлося ўсё будаваць нанава, падчысцілі лес — вось рака высахла і пацішэла.

Аўтобус узышоў на мост. У вадзе чарнелі старыя палі, блішчаў і гайдаўся аер, каля берага стаяў з вудаю хлопчык у закасаных штоніках і ў вялікай афіцэрскай шапцы. Яна напаўзала на вочы, хаваючы твар. Андрэй зірнуў і, здалося, убачыў самога сябе на тым жа месцы, дзе некалі прынаджваў плотак і акунькоў, успомніў, як месячнымі начамі яны хадзілі сюды з дзяўчатамі, бегалі па мосце навыперадкі і ён, як бубен, гудзеў пад нагамі. Над туманнаю ракою кацілася рэха іх галасоў, а на хвалях гайдалася і драбілася месячная сцяжынка. У памяці ажывалі даўно забытыя драбніцы дзяцінства і юнацтва, твары і ўсмешкі сяброў і сяброўак. Уяўленне зберагло іх у тым шчаслівым узросце, які так хутка мінае і ніколі не вяртаецца.

— Скажыце, а доктар Быліновіч працуе яшчэ?

— Аляксандр Сцяпанавіч? А як жа,— ажывіўся Андрэеў сусед.— Хоць і даўно на пенсіі, а з бальніцы не вылазіць, ніводнай адказнай аперацыі не прапусціць.

— Як толькі я вас убачыў у чарзе, адразу падумаў, што вы медык, і, здаецца, не памыліўся.

Андрэеў сусед задаволена ўсміхнуўся:

— Няўжо медыка можна пазнаць і без халата?

— Вы мне нечым нагадалі Аляксандра Сцяпанавіча. Не тварам, канечне, а тым, як трымаецеся, нейкім няўлоўным жэстам, нават паходкай. Я падумаў, што вы часта з ім бачыцеся, магчыма, разам працуеце і... хочаце быць падобным на яго. А ў аўтобусе я паглядзеў на вашыя рукі. Рукі хірурга заўсёды вельмі чыстыя, дужыя і рухавыя, як у піяніста.

— У вас прафесійныя рысы следчага...

Андрэй аж пачырванеў.

— Што вы, следчым ніколі не быў, хоць некалі і часта сустракаўся з імі. А людзей на сваім вяку перабачыў многа, усялякіх людзей, і добрых і дрэнных. Вось і навучыўся крышку разбірацца.

— А якіх усё ж больш? — запытаўся малады доктар.

Андрэй нейкую хвіліну памаўчаў, падумаў і павольна загаварыў:

— Добрых, шчырых і чулых людзей мільёны, але мы іх не заўважаем, не расказваем пра іх учынкі, як пра важную навіну, а пра злачынства аднаго мярзотніка цэлы тыдзень гаворыць увесь горад. Такія сеюць у нашых душах асцярогу і недавер да кожнага чалавека. Прыкладам, падыходзіць да вас на вакзале ветлівы і далікатны чалавек. У вас з ім пачынаецца цікавая гаворка, а вам трэба адысці да кіёска, купіць газету, і вы збіраеце свае скруткі, цягнеце за сабою чамадан. Чаму? Таму, што ў кожным чалавеку бачыце патэнцыяльнага злодзея і прайдзісвета. А вернецеся на сваё месца і нават не падумаеце, што абразілі добрага, сумленнага незнаёмага. Каб не было мярзотнікаў, як бы мы хораша і светла жылі.

Студэнты прыціхлы слухаючы Андрэевы разважанні, а машына ўжо грукатала па колішняй Кавалёўшчыне. Да вайны тут стаялі чырвоныя цагляныя кузні, звінелі малаты, з горнаў ляцелі іскры, і заўсёды было завозна на гэтай вуліцы. Успаміналася, як глухі Барыс зубіў сярпы, а Андрэеў бацька каваў балагольскіх коней, стары Тэвель, абапіраючыся на кіёк, адбіваў такт маленечкім малаточкам, а яго барадатыя сыны мясілі малатамі чырвоныя восі, распырскваючы снапы зыркіх іскраў. Цяпер кузняў няма. Толькі там-сям ад іх асталіся абгарэлыя шулы і зарослыя палыном і дзядоўнікам невысокія грудкі зямлі.

Аўтобус спыніўся на плошчы. Пасярэдзіне яе разросся вялікі сквер. Андрэй выйшаў і пачаў аглядацца.

— Вы ў які бок? — спытаў малады доктар.

— Мабыць, у гасцініцу. Дзе яна цяпер?

— Тады нам па дарозе.

Яны пайшлі праз малады сквер. Ясені і клёны шумелі празрыстым лісцем, там-сям каля дарожак стаялі ўкапаныя ў зямлю лавачкі, але на іх нікога не было: у такую пару ўсе занятыя, кожны працуе. Андрэй заўважыў, што высокая трава ў скверы аж палягла, падумаў, што яе даўно пара скасіць, а загаварыў зусім пра іншае:

— На гэтым месцы гадоў трыццаць назад быў вялікі рынак. Па нядзелях тут стаялі сотні вазоў з паднятымі аглоблямі, колы па самыя калодкі танулі ў гразі. Кожную восень збіраўся вялікі кірмаш, сіла людзей з'язджалася... А клёны каля таго плота і я садзіў, здаецца, у пятым класе. Ого, якія вялікія выраслі.

— Дык, выходзіць, вы тутэйшы, а я думаў камандзіровачны,— прызнаўся малады доктар.

— Радзіўся, маленства і юнацтва тут прайшло, а цяпер нікога і нічога не пазнаю.— Андрэй абвёў позіркам некалькі белых камяніц. Іх, відаць, нядаўна пабудавалі на месцы замшэлых хацінак і на колішняй папоўскай сядзібе.

Развітваючыся каля гасцініцы, малады доктар затрымаў Андрэеву руку і спытаў:

— Прабачце, а як ваша прозвішча?

Той назваўся.

— Знаёмае. Гэта, мабыць, пра вас мне расказваў Аляксандр Сцяпанавіч.

— Вы ж яго сустрэнеце раней за мяне. Перадайце самае шчырае прывітанне і скажыце, што вельмі хачу яго бачыць.

* * *

Бадай усе раённыя гасцініцы падобны адна на адну: аднолькава рыпяць прыступкі на ганку, з бляшанага ўмывальніка капае вада, такія ж вузенькія калідоры і вялікія пакоі з мноствам нікеліраваных ложкаў. Нават у загадчыц ёсць нешта агульнае. Гэта звычайна сярэдняга веку кабеты, у меру далікатныя, увішныя і на пачатку не вельмі гаваркія. А пажывеш дні два-тры — і яны раскажуць не толькі сваю радаслоўную, а ўсе раённыя навіны, не абмінуць і самага высокага начальства. Абы слухаў.

Як толькі пачало змяркаць, Андрэй выйшаў на вуліцу. Тут мала што змянілася з тых часоў, калі ён ганяў абруч і гуляў у хованкі: стаялі тыя ж домікі і хаты, хіба можа трохі асунуліся і пачарнелі, а з царквы зніклі крыжы і званіца. Цяпер тут кінатэатр. Цвінтар разгароджаны, а кусты бэзу парадзелі і высахлі. Вось і два збуцвелыя слупкі ад

колішняй лавачкі. Андрэй спыніўся каля іх, успомніў, як некалі тут сядзелі яны з Броняй, прытуліўшыся адно да аднаго. Броня, Броня!

Хацелася адразу кінуцца шукаць яе, але чамусьці рабілася страшна: мінула ж столькі часу, прайшла страшэнная вайна, знішчыла, пакалечыла, раскідала па свеце мільёны людзей, а колькі іх загінула ў пекле, з якога неяк пашэнціла вырвацца яму!

А можа Броня тут, побач, у сваім доме, з мужам, з дарослымі дзецьмі, працуе ў той жа школе? Хоць і школа, відаць, ужо новая. Андрэй не заўважыў, як апынуўся каля Бронінага дома. Некалі тут у гародчыку цвілі настурцыі і вяргіні, ганак быў густа ўвіты дзікім вінаградам. Андрэй праводзіў Броню дахаты, яны доўга стаялі на прыступках і ніяк не маглі развітацца, пасля садзіліся на лавачку, ён асцярожна туліў яе да сябе. Паміж лістамі прабіваўся прамень блакітнага месячнага святла і падаў на Броніны валасы і лоб.

— Міне зіма, вясною абараню дыплом і прыеду ў нашу школу. Будзем разам бегчы па хрусткім снезе на заняткі, а вечарамі — чытаць, слухаць музыку; арганізуем драматычны гурток, і абавязкова ты сыграеш «Кацярыну». У цябе для гэтага хопіць і пачуцця і душэўнага харастве.

Броня маўчала. Андрэй чуў, як тахкае яе сэрца, лавіў яе гарачае дыханне і ўглядаўся ў добрыя, разумныя вочы. Ён і цяпер настолькі адчуў яе цеплыню, убачыў кожную рыску, што, здавалася, зрабі крок — і дакранешся да яе рукі, адчуеш пах яе валасоў. Але цяпер ён бачыў разгароджаны палісад і голы ганак, а ў акне маладога мужчыну ў жоўтай майцы і незнаёмую маладзіцу з дзіцяткам на руках. Зрабілася горка і пуста. Ён пачаў сябе суцяшаць, што яна магла пераехаць у другі дом, атрымаць школьную кватэру або пасяліцца ў мужа. «А калі яна тут, як мы сустрэнемся, што будзем гаварыць, што адчуваць і думаць. Мы ж чужыя, зусім чужыя. А можа і не. Першае чыстае каханне радніць людзей на ўсё жыццё, нават калі іх разлучыў лёс». Ён цяпер прызнаўся сабе, што і ехаў сюды, каб хоць здалёк убачыць Броню, дазнацца, што яна недзе тут.

А ўспаміны беглі адзін за адным. У памяці ажывалі даўно забытыя драбніцы: Броня ў лёгкім ружовым плацці, у шкарпэтках з сінімі абадочкамі і ў беленькіх гумавых тапачках. Іх тады называлі таргсінкамі.

Нейкім другім зрокам, нібы збоку, угледзеў Андрэй і сябе — маладога, загарэлага, з чупрынаю густых валасоў, у кужэльнай вышыванай кашулі. Яны тады развітваліся да вясны. Зімою Андрэй прыехаць не абяцаў — хацеў крыху зарабіць на завочным аддзяленні свайго інстытута і пасядзець у бібліятэцы над дыпломнаю работаю.

Ён прасіў Броню, каб прыехала ў Мінск на зімовыя канікулы. У яго ж ёсць маленькі прыватны пакойчык на ўскраіне горада. Броня пажыве ў ім, а ён паначуе ў інтэрнаце.

— Што ты? Няёмка! Людзі ліха ведама што падумаюць, гаворкі і плётак не абярэшся.

Андрэй прасіў і даводзіў, што плёткі не павінны замінаць шчасцю, што трэба быць вышэй іх: яны ж даўно ўсё вырашылі і ведаюць, што будзе праз год і праз дзесяць гадоў. Будучае бачылася выразна, як другі бераг іх ціхай Пцічы. Варта толькі пераплысці — і яны будуць разам на ўсё жыццё, да канца адчуюць шчасце блізкасці самага дарагога чалавека, без якога няма хараства і сапраўднай радасці. Андрэй так кахаў Броню, што ніколі не адважваўся пераступіць мяжы іх чыстых адносін. Хоць і марыў пра інтымную блізкасць, але цяпер яна была б непапраўнаю абразаю іх святых пачуццяў. Ён успомніў апошняе лета свайго кахання, жнівеньскую гарачыню, дарогі, прыцярушаныя хрусткаю саломаю. Над ваколіцамі павольна асядаў пазалочаны сонцам пыл, а далёка над палямі звінела і заціхала, шырока плыла і трымцела працяжная жніўная песня. Яна чулася Андрэю заўсёды, як толькі ўспаміны вярталі яго ў родныя мясціны, гучала ў загатаваных цяплушках, на замеценых снегам таежных сцежках, у закураных бараках і перасылках. Ад яе шчымела сэрца, поўнячыся тугою і болем па зямлі яго маленства, па тым жнівеньскім надвячорку, што астаўся ў памяці на ўсё жыццё.

Ён тады цэлы дзень падаваў снапы ў малатарню на калгасным таку, а як змеркла, ужо быў на Броніным ганку. Яны выйшлі за мястэчка, і вузкая цвёрдая сцяжынка павяла іх у апусцелыя палі. У далінах курыўся туман, месяц узышоў позна, і цені здаваліся доўгімі і смешнымі. Кіламетры за тры ад ускраіны ўзвышаўся пясчаны курган з трыганаметрычнаю вышкаю наверсе. Яе чамусьці ўсе звалі маяком. Андрэй узяў Броню за руку:

— Сходзім на маяк.

— Позна і далёка, дый раса буйная, ногі прамочым. Можа лепей вернемся?

Андрэй падхапіў яе на рукі і панёс па сцежцы. Броня смяялася і слаба спрабавала вызваліцца:

— Шалёны, што ты робіш? Пусці... пусці, ну добра, пайду,— прасіла яна, але моцна трымалася за Андрэеву шыю. Пасля яны беглі навыперадкі, лавілі адно аднаго. Ім здавалася, што, апрача іх, на свеце не было нікога. Пад месяцам мігцеў росны жнеўнік. У полі было ціха і пуста.

— Палезем на самы верх,— сказаў Андрэй. Яны ўзышлі па хісткіх крутых усходцах і ўпершыню адчулі такую вышыню, такое харawство, бязмежнасць жыцця і свету. Унізе слаўся туман, пранізаны месячным святлом. Броніны вочы свяціліся дабратой, а вусны застылі ў шчаслівай усмешцы. Пра што яны гаварылі, Андрэй ужо не помніў, ведаў толькі, што тады яны далі адно аднаму слова ніколі не разлучацца.

Але пасля гэтай ночы сустрэліся толькі адзін раз. Зімою. Андрэя выклікалі тэлеграмай. Памірала маці. Ён кінуў-рынуў усё і прыехаў дадому. Некалькі дзён не адыходзіў ад бальнічнага акна, а калі маме стала зусім кепска, Аляксандр Сцяпанавіч пусціў яго ў палату. Маці пазнала яго, але сказаць ужо нічога не магла. Раніцаю яна сканала. Тады з гора Андрэй упершыню закурыў. І цяпер ён выцягнуў з кішэні цыгарку, пачаў закурваць і заўважыў, што далёка адышоў ад Бронінага дома і апынуўся на вялікай вуліцы. Яго абміналі незнаёмыя маладыя людзі, каля хат сядзелі пажылыя кабеты, здавалася, што ён іх некалі бачыў, але яго ніхто не пазнаваў. Ён зноў быў у палоне сваіх успамінаў, нават адчуў на спіне халадок тае снежаньскай раніцы, скрып палазоў па іскрыстым снезе, і даўкі сухі камок падкаціўся к горлу. Андрэй прасіў бацьку і сваякоў, каб не наймалі на пахаванне папа, але так і не ўпрасіў. Добра, што побач была Броня. Калі пачалася паніхіда, яны непрыкметна выйшлі з хаты. Наўкол ляжалі гурбы свежага сіняватага снегу, нізка звісала шэрае неба, было маркотна і ціха. Броня ўзяла Андрэя пад руку, і яны паціху пайшлі на могілкі. Яна не суцяшала, а толькі моцна сціскала вышэй локця яго руку. На душы станавілася лягчэй і спакайней, што побач блізкі і дарагі чалавек. У лёгкія студэнцкія чаравікі набіваўся і раставаў снег, станавілася холадна.

Могілкі былі завалены снегам. Старыя хвоі пасівелі ад густога інею, дубчыкі кустоў тырчалі з высокіх сумётаў, у белых стаўбунаватых шапках стаялі крыжы. Сцежачка ў два сляды прывяла іх за каплічку. Андрэй з Броняю спыніліся пад сасною, дзе ляжала мёрзлая, перамешаная са снегам гліна, аскабалкі карэнняў і чарнела вузкая неглыбокая яма. З яе цягнула вільгаццю свежай зямлі.

Калі абыякава адгугнявіў поп, адгаласілі жанкі, адгрукалі мёрзлыя камякі па веку дамавіны і ўсе разышліся, Андрэй з Броняю яшчэ доўга стаялі каля матчынай магілы. Яму было сорамна і прыкра, што не адважыўся ісці за труною, пабаяўся, каб ніхто не ўпікнуў, што камсамолец ідзе разам з папом, каб не напісалі ў інстытут, а там бы ўжо зрабілі арганізацыйныя вывады! Ды і Броні не было як ісці — яна ж настаўніца. За гэтую думку ўхапіўся Андрэй і хацеў апраўдацца

перад самім сабою і перад Броняй, прыкрыць страх, які ўсё глыбей і глыбей раз'ядаў сэрца.

Броня моцна сціснула яго рукі:

— Ведай, што цяпер я для цябе буду і маці, і сястрою, і ўсім на свеце. Што б з табою ні здарылася, я заўсёды буду побач.

Разам з воблачкамі пару яна выдыхала праўдзівыя, гарачыя і шчырыя словы. Пасля Андрэй іх часта ўспамінаў на ўсіх цяжкіх дарогах, верыў на першым часе, што хутка вернецца, што вось-вось кончыцца дзікае непаразуменне. Але мінаді гады, і траціліся надзеі.

На другі дзень пасля пахавання Андрэй паехаў у Мінск.

— Да вясны! — крыкнула ўслед Броня.

Колькі прайшло з тае пары вёсен? Хлапчукі і дзяўчынкі, што нарадзіліся пасля іх развітання, выраслі, пасталелі, пажаніліся і павыходзілі замуж, а яны так і не сустрэліся. І ці сустрэнуцца? А можа яна тут, недзе зусім блізка? Пра што ж гаварыць? Каго вінаваціць, што яны не сустрэліся і не знайшлі свайго шчасця? Няма каго. І ўсё ж нехта вінаваты, але толькі не ён і не яна.

Думаючы, успамінаючы, абмінаючы сустрэчных, Андрэй прыйшоў на плошчу. На слупах гарэлі цьмяныя ліхтары, у скверы смяялася і спявала моладзь, на лавачках сядзелі парачкі. Андрэй спыніўся каля нізкага плота. Вось прыйшлі на зямлю новыя людзі, са сваімі радасцямі і клопатамі, са сваім каханнем і шчасцем. Так, шчасцем! Ім ужо ніколі не давядзецца зведаць пакуты, якія перажыў Андрэй і многія яго равеснікі. Каму гэта і навошта спатрэбілася?

Ён яшчэ доўга хадзіў па начных вуліцах, завярнуў туды, дзе некалі стаяла іх хата, і нічога не пазнаў.

У поўнач ён вярнуўся ў гасцініцу, але доўга не мог заснуць.

* * *

На канцы мястэчка была бальніца — тры доўгія жоўтыя будыніны. Каля іх раслі старыя стромкія таполі і стаяла абшмуляная лейцамі канавязь. За бальнічным плотам, пад грыбком, некалькі хворых у піжамах і мультановых халатах «забівалі казла».

Андрэй увайшоў у двор і пачуў знаёмы голас. Ён пазнаў не столькі голас, колькі інтанацыю, манеру гаварыць, хуценька і катэгарычна:

— А вам, баценька, хто дазволіў курыць? Мы вас лечым, а вы нам самасадам «дапамагаеце»,—прабіраў Аляксандр Сцяпанавіч старога чалавека, а той стаяў перад ім, як вінаваты вучань. Андрэй патушыў недакурак і пайшоў да доктара. Ён нібыта мала змяніўся:

крыху пацяжэў у хадзе, ужо не такі рухавы і порсткі, збрыў сваю востранькую бародку, і ад гэтага яго твар пакруглеў.

Доктар, відаць, здалёк заўважыў яго, але ўсё яшчэ сварыўся на старога з цыгаркаю ў рукаве. Пасля зрабіў крок насустрач.

— Рад вас бачыць жывым і здаровым. Чуў, што прыехалі, э-э-э,— ён замяўся,— Аляксеевіч... Скляроз праклятый. Я часам і сваё імя забываюся. Вы ўжо даруйце.

— Андрэй, проста Андрэй,— яны моцна паціснулі адзін аднаму руку. Доктар паглядзеў яму ў вочы прафесіянальным позіркам, нібы збіраўся загадаць: «Скажыце а-а». Пасля ўзяў за локаць і запрасіў да сябе ў кватэру. Ён заўсёды жыў тут, пры бальніцы.

— Ну, расказвайце, дзе што і як. Словам, выкладвайце ўсё па парадку. Гэта ж прайшло не менш як дваццаць гадоў. Юнаком помню вас, а цяпер сівізна, хоць і выглядаеце малайцом. Слухаю, слухаю, толькі гаварыце, калі ласка, крыху мацней.

А Андрэю хацелася перш паслухаць яго, хутчэй дазнацца пра ўсё, што непакоіла і хвалявала яго. Але ж трэба мець вытрымку, нельга адразу лезці са сваімі пытаннямі. І ён коратка расказаў, што пасля рэабілітацыі прыехаў у Мінск, атрымаў пакойчык і працуе завучам вячэрняй школы, ёсць жонка, пяцігадовая дачушка. Ён прыгадаў даўнюю прыказку: «Сам сіў, сіў, а дзеткі ціў, ціў» — і горка ўсміхнуўся. Не любіў Андрэй успамінаць свае цяжкія гады, расказваць пра пакуты і знявагі, каб не падумалі, што хоча расчуліць, шукае спагады і скідак. А калі часам і расказваў, дык толькі смешнае і кур'ёзнае, хоць самым вялікім кур'ёзам было тое, што здарылася з ім. Але хіба з ім адным? Колькі такіх, як ён, прайшло праз камеры, этапы, лагеры і ссылку! А колькі іх вярнулася? Таму Андрэй лічыў сябе шчаслівым.

— Я не пытаюся, за што і чаму. Цяпер гэта ведае кожнае дзіця. Але скажыце, як вам удалося вытрымаць усё, што вас ратавала? — дапытваўся доктар.

— Вера,— адказаў Даліміч,— і неадольная прага дажыць да сённяшняга дня, вярнуцца на радзіму і адкрыта паглядзець у вочы людзям, якія ведалі мяне з маленства. А цяпер хочацца жыць не абы-як, а так, каб нешта зрабіць добрае, чаго не мог зрабіць у тыя марна страчаныя гады. Час жа іншы, і людзі думаюць інакш, шчырасці і адкрытасці больш, дыхаецца лягчэй, відно намнога далей,— Андрэй нават збянтэжыўся ад свайго пафасу.

— Так, так,— прамармытаў Быліновіч.— Памятаю, калі тут дачуліся пра ваша няшчасце, колькі плётак хадзіла. І шпіён, казалі, і трацкіст, і нацыяналіст. Чаго толькі не плялі. Многія дзівіліся: «Такі спакойны і разважлівы хлопец, камсамолец, студэнт — і на табе.

Значыць, хітра маскіраваўся». А быў тут такі нягоднік, па прозвішчу Касоўскі, следчым працаваў...

— Фама? — усхапіўся Андрэй.

— Здаецца, Фама. Але ён сабе змяніў імя на больш мілагучнае. Феліксам назваўся. Хацеў святое імя апаганіць. А вы хіба яго ведаеце?

— А як жа, да сёмага класа вучыліся разам.

— Дык гэты Фама на камсамольскім сходзе, калі выключылі Браніславу Аляксандраўну за сувязь з вамі, казаў, што Даліміч і тут хацеў арганізаваць контррэвалюцыйнае падполле, што збіраў студэнтаў у гэтага... як яго? Ну, сляпы такі быў, на канцы каля могілак жылі...

— Зяма Чэрнін,— падказаў Андрэй. Сэрца яго калацілася, вушы гарэлі, але ён не адважваўся перапыняць доктара.

— Так, так, Зяма. І яго, небараку, цягалі. Ён дзён пяць са мною ў адной камеры сядзеў. Але, мабыць, нічога з яго не выбілі, ды і марокі многа было са сляпым — выпусцілі.

— Дык і вы там былі? — здзівіўся Андрэй.

— А як жа. Хіба ж магла без мяне абысціся такая кампанія? Месяцаў восем прамарылі і выгналі.

— Ну а вас за што?

— За тое, за што і ўсіх. Са мною быў наогул анекдатычны выпадак, хоць і мог кончыцца трагічна. Вы ж, мабыць, помніце, як адразу пасля рэвалюцыі ўсе захапляліся спектаклямі? Ігр.аў і я. У Дваццаць другім і дваццаць трэцім годзе служыў я ўрачом у Самарскай кавалерыйскай дывізіі. Ставілі мы нейкую п'есу, не то «Апошні дзень залатога арла», не то «Пад залатым арлом», ну і, вядома, стралялі ад першага да апошняга акта. Мне давялося іграць царскага палкоўніка, а наш капцінармус пастараўся і адкапаў на нейкім складзе ўсю палкоўніцкую амуніцыю, вусы з авечай шэрсці прыклеілі, крыжоў з кансервавых бляшанак начаплялі і ездзілі з гэтай п'есай з палка ў полк. А пасля ўзялі ды здуру ў поўнай форме сфатаграфаваліся.

Колькі я ў тыя гады пагубляў усяго, а картачка гэтая, як на тое ліха, засталася. Вось за яе я восем месяцаў і парыўся, даводзіў, што не «вярблюд». А ваш былы аднакласнічак скрутачкам з газеты лясь мяне па патыліцы, а пасля вадою адлівае і рагоча: «Далікатны ж вы, палкоўнік Быліновіч, што ад газеткі падаеце. А можа і зусім не Быліновіч, а?» І зноў усё пачыналася спачатку. А ён, нягоднік, у газету гумавую палку загортваў. Ды што вам расказваць, вы болей за мяне бачылі і ведаеце. А ў вайну гэты самы Фама немцам прадаўся, паліцаем служыў, у крыві — па самыя вушы. Гэта доўгая і цяжкая гісторыя. Давайце лепш вып'ем чаю, а тады і пагаворым. Прабачце.

Ён хуценька знік за дзвярыма.

Андрэй, ашчарэпіўшы рукамі схіленую галаву, моўчкі, нерухома сядзеў на старамоднай плюшавай канапцы і думаў. Яму хацелася адразу, як толькі вернецца доктар, спытаць пра Броню, але рабілася страшна пачуць адказ, таму адцягваў яго як прысуд. Ён разумеў, што з Броняй яны даўно чужыя, што ўсё толькі ў мінулым, але хацелася, каб яна жыла і была шчаслівая.

У пакой увайшла сівенькая, але зграбная сястра Аляксандра Сцяпанавіча. Андрэй устаў і пакланіўся. Яна падала яму маленькую, яшчэ моцную руку:

— Рада за вас. Саша, частуй маладога чалавека.— Яна паставіла нікеліраваны чайнік, шклянкі, сподачак з варэннем і нячутна выйшла з пакоя. Доктар пачаў наліваць чай.

— Канечне, у такіх выпадках добрыя людзі выпілі б па чарчыне, але...— ён прафесіянальным жэстам пастукаў каля сэрца,— катэгарычна забаронена. Ды і вам не раю. Традыцыя традыцыяй, а вам, асабліва цяпер, трэба берагчыся. Жыццё пачынаеце нанава, ды якое жыццё!

Андрэй адпіў глыток і ўтаропіўся ў Аляксандра Сцяпанавіча, нібы прасіў і пытаўся: «Не мучце, што далей?»

Доктар зразумеў гэты погляд, спакойна памяшаў лыжачкай у шклянцы, штосьці прыпамінаючы ці падбіраючы неабходнае слова.

— Вы мяне прабачце, Аляксандр Сцяпанавіч, але раз я ўварваўся да вас, дык мушу сказаць, што з таго дня, як са мною здарылася няшчасце, і аж па сённяшні дзень нічога не ведаю, як тут жылі, як склаўся лёс маіх добрых знаёмых. Пісем я пасылаць не мог і сам не атрымліваў. Малодшая сястра яшчэ да вайны выехала ва Уфу і толькі цяпер адважылася паведаміць мне, што бацька загінуў і хата згарэла ў часе бамбёжкі. Так што я нічога і ні пра кога не ведаю. Усё мне будзе цікава і нова.

— А я лічыў, што вы галоўнае ведаеце. Тэ-э-кс,— і доктар пачаў гаварыць, як звычайна гавораць з цяжкахворым.— Калі Браніславу Аляксандраўну выключылі з камсамола і знялі з работы, Касоўскі яе кожную ноч выклікаў на допыты: патрабаваў, каб ачарніла вас, пагражаў і зневажаў, угаворваў і абяцаў залатыя горы, а яна прасіла аднаго, каб саслалі разам з вамі. Так ён і не запісаў ад яе ніводнага слова супроць вас.

Месяцаў пяць яна нідзе не працавала, учарнела і цуралася людзей, нікому не верыла, усіх баялася. Сустрэў я неяк яе на вуліцы і папрасіў зайсці ў амбулаторыю. Яна прыйшла і згадзілася працаваць у нас рэгістратарам. Вы ж ведаеце яе дабрату і чуласць. Ніхто так не ўмеў зразумець, падтрымаць і суцешыць хворага. Яна радавалася,

што зноў апынулася сярод людзей, ніколі не спяшалася дадому. Пасля работы ішла ў перавязачную і Дапамагала сястры, да поўначы ў палатах чытала хворым кніжкі. Калі Касоўскі «злавіў палкоўніка Быліновіча», яна больш за ўсіх клапацілася пра мяне: угаварыла наглядчыка і перадавала мне цукар і махорку. Вы ж ведаеце, што значыць вестачка з волі. А як яна радавалася, калі я вярнуўся ў бальніцу, як клапацілася пра мяне. Мы з ёю доўга пра ўсё гаварылі, хоць я і даў падпіску «не разглашать». Тады Броня ўпершыню пры мне заплакала.

Доктар уздыхнуў і адпіў халоднага чаю. Андрэй папрасіў дазволу, адчыніў фортку і закурыў, пускаючы дым на вуліцу.

— Так мы і працавалі з ёю аж да самай вайны. А ў першы дзень выпісалі ўсіх хадзячых хворых. Ды і ўтрымаць іх у бальніцы было нельга: дома ж дзеці і сем'і засталіся. А тут пакінулі толькі чалавек дзесяць пасляаперацыйных.

Ноччу да мяне прыехаў Іван Васільевіч, наш сакратар райкома. Мы з ім цішком пагрузілі перавязачныя матэрыялы, інструменты і ўсё, што было ў аптэцы. Я сказаў дзяжурнай сястры, што еду да цяжкахворага і, мабыць, прабуду некалькі дзён. Яна ўсё зразумела і толькі выцерла хусцінкай вочы. З гэтага дня пачалося маё лясное жыццё. Падрабязнасці расказваць не буду, вы ж, напэўна, пра партызан і чыталі і ў кіно бачылі.

Дні тры ў мястэчку ніякай улады не было. Ведалі толькі, што з усіх бакоў адрэзаны і, апрача лесу, уцякаць няма куды. Толькі Касоўскі адразу некуды знік. Мабыць, не столькі ад немцаў хаваўся, колькі ад сваіх — ведаў, што ледзь не кожнаму гарачага сала за скуру заліў, вось і баяўся расплаты. Пасля расказвалі, што да цесця на хутар падаўся, бараду адпусціў, у лапці абуўся, але месяцы праз два немцы яго падыбалі.

Андрэй усміхнуўся, што і да доктара прыліпла слоўца з лагернага жаргону. Ды хіба да аднаго доктара? Усе «законна», «дахадзяга», «баланда», «філоніць» і самую мудрагельскую лаянку ён упершыню пачуў там, а цяпер часам гэтым жаргонам казыраюць некаторыя гарадскія падлеткі. Але ён не перабіваў Аляксандра Сцяпанавіча, хацелася хутчэй пачуць самае галоўнае, а доктар нібы знарок марудзіў, адцягваючы развязку.

— Забралі гэтага Фаму, прывезлі сюды, дні тры патрымалі ў гестапа і, што вы думаеце, выпусцілі. А за што? Перапісаў усіх камуністаў, камсамольцаў, служачых райвыканкома, сем'і камандзіраў Чырвонай Арміі, сказаў, што райкомаўцы і работнікі ваенкамата ў лес пайшлі. А куды, пэўна не ведаў і ведаць не мог: не любілі, баяліся і не

верылі яму. Сам Іван Васільевіч яго асцерагаўся. Колькі людзей праз гэтага паганца загінула, падумаць страшна. І якіх людзей! А ён паліцэйскі чын заслужыў і зрабіўся такі прававерны, што нікому дыхнуць не даваў. «Гэта табе не пры бальшавіках,— крычаў ён,— я цябе навучу свабоду любіць». І вучыў. З яго рук ніхто жывым не выходзіў.

Андрэй то бачыў Фомку Касоўскага малым хлапчуком, калі ён у класе ўсіх абгульваў у пёры, то важным і незалежным аператыўным работнікам у блішчастых хромавых ботах, габардзінавым рэглане і ў блакітнай шапцы. Ён навучыўся хітра прыжмурваць вочы, нібыта бачыў чалавека наскрозь, а ўсмешачка яго кожнаму гаварыла: «А я ўсё ведаю, ад мяне не схаваешся». І Андрэй пачынаў пазбягаць свайго былога аднакласніка. А вось у чорным шынялі паліцая нават Касоўскага не мог сабе ўявіць. І тут падумалася, што людзі без веры і праўды, без пераконанняў і прынцыпаў здатныя на ўсё. Вайна праявіла душу кожнага, паказала, хто чаго варты. Фомка і да вайны і ў вайну не грэбаваў нічым, абы толькі мець тлусты кавалак. А сумленне? Наўрад ці яно было калі ў яго, ды і замінае яно такой «рабоце».

Андрэй чуў, што нешта гаворыць доктар, але яго словы шумелі, як роўны дождж, і толькі імя Броні вярнула яго да расказу Аляксандра Сцяпанавіча:

— З бальніцаю мы падтрымлівалі сувязь праз Браніславу Аляксандраўну: перапраўляла яна нам медыкаменты, бінты і гіпс. Аднойчы пераказала, што немцы сагналі ўсіх яўрэяў на вуліцу каля лазні і збіраюцца іх пастраляць. Асабліва стараўся Касоўскі — лазіў па гарышчах, скідаў адтуль дзяцей і старых і толькі ніяк не мог знайсці сляпога Зяму. Андрэй помніў высокага чарнявага хлопца, разумнага і дасціпнага ў гаворцы. Ён усё ведаў, пра ўсё мог расказаць, аб кожнай падзеі і кнізе меў сваю думку. Сотні пудовых тамоў з наколанымі старонкамі ён прачытаў сваімі тонкімі чулымі пальцамі. Ён рабіў самыя звонкія мандаліны і скрыпкі, а калі іграў, здавалася, сама душа гаворыць. У яго аднагодкаў было няпісанае правіла — кожны дзень заходзіць да Зямы, і не з пустымі рукамі. Прыносілі новыя кнігі, цікавыя артыкулы, свежыя часопісы — і гадзінамі чыталі невідушчаму таварышу.

А калі з'язджаліся на канікулы студэнты, хата Чэрніных ператваралася ў маленькі клуб, у ёй ніколі не зачыняліся дзверы, не змаўкалі гаворка, музыка, жарты і песні. А вечарамі бралі Зяму пад руку і ўсёю кампаніяй гулялі па адзінай брукаванай вуліцы. Штодзённа ў Зямы бываў і Андрэй. Ён расказваў пра літаратурныя вечары ў іхнім

інстытуце, пра выступленні беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў, пра Чарота і Харыка, пра Зарэцкага і Давіда Бергельсона.

Пасля ўсё гэта ў сваім паклёпе Касоўскі назваў «зборышчамі» і «нелегальнымі сходамі ворагаў народа, якіх узначальваў Далініч». Яму, відаць, удалося некага запалохаць, і той падпісаў, што белае было чорным.

Зноў усё прамільгнула ў Андрэевай памяці. Адзін эпізод змяняў другі, без лагічнай паслядоўнасці ўспаміналася даўно забытае. Выразна ажывалі аблiччы сяброў юнацтва, усмешкі і нават галасы.

А доктар гаварыў і гаварыў:

— Касоўскі ведаў кожнага ў мястэчку і выслужваўся як толькі мог. Кожны яго поспех аплачваўся чалавечым жыццём. Яму і ўдалося знайсці Зяму аж у Зарэччы, у канапляным стажку. Хтосьці яму туды прыносіў піць і есці, але ён нікога не выдаў. Пазней усе казалі, што яго туды адвяла і схавала Броня, але гэта ведалі толькі яны ўдваіх. Зяму расстралялі разам з усімі каля Мыслачанскай гары,— Доктар памаўчаў, відаць, падбіраючы больш асцярожныя словы.— Хутка забралі і Браніславу Аляксандраўну. Яе доўга мучылі, білі і марылі голадам, потым адправілі ў лагер. Больш яе ніхто нідзе не бачыў. Маці яе памерла толькі летась. Яна да апошняга дня шукала і верыла, што дачакаецца дачку. Куды мы толькі ні пісалі, дзе ні шукалі. Адказ быў адзін: «Не значыцца».

Аляксандр Сцяпанавіч устаў, прайшоўся па пакоі, паклаў Андрэю на плячо руку:

— Вось так, Андрэй Аляксеевіч, такія сумныя навіны... Яна заўсёды ўспамінала вас, чакала, верыла, што вернецеся, казала, каб ведала куды, паехала б следам за вамі. Шкада, што не дачакалася.

— А куды дзеўся гэты Фама?

— Злавілі яго недзе ў Чэхаславакіі, а судзіць прывезлі сюды. Людзі прасілі: «Дайце нам, мы яго самі асудзім». Тады замест чатырох прыставілі шэсць канваіраў, і ён хаваўся за іх спіны. Далі 25 гадоў, а пасля была амністыя.

Мабыць, недзе жыве і лічыцца добрым чалавекам, ходзіць да суседзяў у госці і расказвае, як пакутаваў у акупацыі, а тут шыбеніца плача па ім.

Яны абодва маўчалі. Андрэй памешваў халодны чай, а доктар хадзіў па пакоі, пасля спыніўся і сказаў:

— Ведаеце, Андрэй Аляксеевіч, па-мойму, шчаслівы толькі той, хто можа заўсёды адкрыта глядзець кожнаму ў вочы, каго ніколі не мучыць сумленне і страх перад людзьмі, а людзі — самы справядлівы і грозны суддзя. Пабаяліся ж вас тады судзіць пры народзе, нават

пісем баяліся вашых, схавалі ад усіх. Добра, што ўсё гэта мінула і ніколі не вернецца.

Андрэй падзякаваў доктару, і яны разам выйшлі на ганак. На бальнічным двары расла густая трава і цвілі чырвоныя півоні. Дрыжалі лісты на высокай ерабрыстай таполі, пахла нарцысамі і тапалёваю смолкаю. Андрэю здалося, што ён вярнуўся ў сваё дзяцінства.

— Доўга думаеце прабыць у нас? — спытаў Аляксандр Сцяпанавіч.

— Заўтра яшчэ пахаджу па знаёмых сцежках і паеду.

Але ні заўтра, ні паслязаўтра ён нікуды не паехаў. Да яго прыходзілі даўнія знаёмыя і далёкія родзічы, запрашалі ў госці адразу ў некалькі хат. А матчына стрыечная сястра са слязьмі на вачах папракала:

— Гэта ж трэба, прыехаць дадому і жыць у гасцініцы. Ці мала наваляўся за свой век? Хіба ж месца ў нас няма? Не чужыя ж мы.

Праўда, усе былі свае. І Андрэю захацелася пажыць у хаце, дзе пахне сырадоем, агуркамі і кропам, а па начах трашчыць цвыркун. Хацелася адчуць цяпло печы, пахі і гукі далёкага маленства.

1962

# ЛЮБОЮ ЦАНОЮ

Арцём Цыбакоў ужо больш як паўгадзіны стаіць на скрыжаванні дарог і дарэмна «галасуе». Грузавікі, самазвалы, новенькія і абшарпаныя «газікі», распырскваючы гразь, праходзяць міма. Хоць бы хто прытармазіў, хоць бы адзін шафёр паспачуваў адзінокаму чалавеку, што стаіць пры дарозе ў мокрым брызентавым плашчы.

Боты набраклі, ногі ныюць і заходзяцца ад золі і макраты. Калені трасуцца, па спіне прабягаюць дрыжыкі, дранцвее рука ад холаду і цяжкага партфеля, набітага звычайным скарбам камандзіровачнага.

«Чаму ж не спыняецца ніводная машына? — думае Арцём Цыбакоў.— У кожнай кабіне сядзіць то вясёлая маладзіца, то паблісквае побач з шафёрам круглы, дырэктарскага калібру, твар».

А ён бы і ў кузаве даехаў, гатоў прастаяць гэтыя няшчасныя дванаццаць кіламетраў, каб толькі завідна трапіць у «Чырвоную Ніўку», дзе-небудзь спыніцца, пагрэцца і збольшага абсушыцца перад лекцыяй.

Дык не, ляцяць як на пажар. Аслеплі, ці што, «калымшчыкі»? «Калымшчыкі». Ага! І ўспомнілася Арцёму Цыбакову, што некалі ён сам падпісаў загад — штрафаваць кожнага, хто «калыміць» і возіць «рабчыкаў», прабіваць талоны і адбіраць правы.

Няўжо і дагэтуль баяцца таго загаду? Што яны, адурэлі? Прайшло ж два гады, а слухаюцца. Пара б ужо даўно забыцца. Нарабіў на сваю галаву. Але ж тады яго і сілком не ўсцягнуў бы на самазвал: была пасада — старшыня райвыканкома — гаспадар! Былі «Волга» і персанальны ўвішны шафёр Федзя. Колькі яны папаездзілі! А вось у гэту самую «Ніўку» ніяк не выбраліся: калгас так сабе, «серадняччкі», без герояў і сабатажнікаў, планы ў асноўным выконваў, скаргаў ніякіх не паступала, а дарога такая, што толькі на самазвале і ездзіць туды.

Успомнілася Арцёму Іванавічу, як некалі яго сустракалі старшыні сельсаветаў і калгасаў, як слухаліся яго, як кожны цягнуў да сябе, як умелі пачаставаць і дагадзіць. І перад Федзем завіхаліся: што ні кажы — шафёр начальства! Глядзіш — і закіне слоўца ў дарозе.

Арцём Іванавіч ведаў, што яго называлі «сам» і «гаспадар», што хоць і пабойваліся, але заўсёды ўмелі ўзрадавацца, запрасіць, каб прыязджаў часцей, каб пажыў яшчэ трохі, падказаў і параіў. А сам сабе, мабыць, кожны думаў: «Хутчэй бы ты ехаў адсюль і не прыязджаў болей». Без начальства яно спакайней. Гэта ведаў Арцём Іванавіч па сабе. І да яго ж прыязджалі «зверху».

А цяпер ён стаіць на скрыжаванні, углядаецца ў далячынь размытай веснавой дарогі і марна «галасуе». Што ж зробіш? Лектар

таварыства «Веды», добраахвотнік, пенсіянер — ні чыноў, ні ўлады. А шафёры, відаць, не пазнаюць, а можа і знарок не заўважаюць.

З-за паваротки вынырнула блакітная «Волга». Яна прысядае ў лужынах, распырсквае вееры каламуці, вырульвае на абочыны, віляе з аднаго на другі бок. Ад надзеі і радасці страпянуўся Арцём Іванавіч, выскачыў на дарогу, падняў руку, плаўна памахаў ёю, бо ведаў, што едзе нехта свой, спыніцца, нідзе не дзенецца. Ён зараз сядзе ў машыну, няхай і не побач з шафёрам, і прыедзе ў «Чырвоную Ніўку» па ўсіх правілах, як ездзяць салідныя людзі. Ён ведае — ад таго, на чым ты прыехаў, і пашана табе і павага.

Каб яго пазналі, Арцём Іванавіч скінуў з галавы мокры капюшон, і твар яго засвяціўся радасцю. А «Волга», не даехаўшы метраў дзесяць да яго, крута павярнула на запольскую дарогу, пад багажнікам загарэліся чырвоныя агеньчыкі, вырваўся сіні дымок, і, прымінаючы сухі парудзелы палын, памчалася на ўзгорак.

Арцёму Іванавічу зрабілася млосна: ён убачыў знаёмы нумар колішняй сваёй машыны. Няўжо Федзя не пазнаў яго? А можа не хацеў пазнаць? А мог жа спыніцца і падкінуць па старой памяці. Тут жа і язды тае на нейкія пятнаццаць хвілін. Каго ж ён павёз? Пэўна, Сцёпку Голуба, таго самага Сцёпку, што некалі асцярожна стукаўся да яго ў кабінет і не адважваўся сесці. А цяпер — Сцяпан Кірылавіч, сам старшыня, гаспадар раёна...

І так зрабілася крыўдна і горка, адзінока, пуста і халадней, як было. Зноў замжэў ціхі веснавы дождж, зацягнуўся сіняватай смугою далягляд, а на ім то знікала, то з'яўлялася чорная кропка райвыканкомаўскай «Волгі».

«Пэўна, усё ж не пазнаў»,— суцяшаў сябе Арцём Іванавіч і ўспомніў, як бурчаў на Федзю, калі той хацеў падвезці якую-небудзь здарожаную бабульку або інспектара райана. «Усіх не перавозіш. А каб не вярэдзіць добрую душу, не глядзі па баках. Пры староннім жа чалавеку ні пагаварыць, ні падрамаць нельга, а якая-небудзь старая яшчэ пачне галаву тлуміць сваімі скаргамі. Адным словам, забараняю».

Відаць, Федзя добра запомніў яго навуку...

Пастаяў яшчэ Арцём Іванавіч на дарозе, паглядзеў і падаўся пехатою. Ішоў, а ў галаву лезла ўсялякая непатрэбшчына: чамусьці ўспомніліся чырвоная дывановая дарожка на сядзеннях райвыканкомаўскай «Волгі» і тэрмас з гарачаю каваю, які ён заўсёды браў у дарогу. От каб цяпер хоць глыточак! Прыгадалася, як праводзілі яго на пенсію, як абдымаў той самы Сцёпка Голуб, як казаў, што заўсёды вучыўся ў яго, прасіў, каб часцей заходзіў, часам памагаў парадаю, у

яго ж такі вялікі вопыт. Колькі разоў тады было сказана «дарагі», «паважаны», «выдатны» і «чулы».

А прайшоў месяц, год, вось ужо і два гады мінула, так яго ніхто і не ўспомніў, не зайшоў і не запрасіў да сябе. Кожны заняты сваім. Толькі акуратна прыходзіць паштальён і дае распісацца за пенсію. Толькі раз на месяц распісацца! Цяпер і Новы год, і Кастрычнік, і Май Арцём Іванавіч сустракаў адзін. Адзінота гняла яго. Вось і згадзіўся чытаць лекцыі ў калгасах: жывому ж чалавеку хочацца быць сярод людзей. Але мясіць веснавую гразь, мокнуць пад дажджом, валяцца на сельсавецкіх канапах — не ў яго гады і не з яго здароўем. «Вось адчытаю ў «Ніўцы» — і прыйдзецца адмовіцца. А што буду рабіць? Нудзіцца і, як вол доўбні, чакаць інфаркту? Адмовіцца проста. Трэба дамагчыся, каб лектарам давалі транспарт. А сам? Прыходзіў жа некалі дырэктар школы, прасіў, каб падвезлі ў суседняе сяло настаўніцу — лекцыю прачытаць аб шкодзе рэлігіі. Не даў жа. Відаць, і яна мясіла гразь так, як я цяпер».

На дарозе пачуліся хлюпанне і бразгат. Арцём Іванавіч азірнуўся і ўбачыў, што яго наганяе фурманка. Ён паціху адышоў убок і стаў. На возе сядзеў сухенькі дзядок у аблезлай ватоўцы і выцертай салдацкай шапцы. Ён наганяў лейцамі невялічкага перапалага коніка і цмокаў пасінелымі губамі.

Убачыўшы на дарозе чалавека, стары прыпыніўся:

— Добры дзень, чалавеча. Куды гэта бог нясе ў такую халепу?

Арцём Іванавіч адказаў і паглядзеў на старога з такою надзеяю, што той адразу пасунуўся ў перадок і сеў на падкурчаныя ногі.

— То сядайце, калі так. Можа як да вечара даскрыпаем.

Арцём Іванавіч кінуў на перацёртую салому мокры партфель, задраў цубкія полы плашча і сяк-так пералез цераз драбіну. Ён доўга масціўся, не ведаючы, куды дзець ногі і аб што абаперціся. Ухапіўся рукамі за слізкія халодныя білы. Сядзець было нязручна і мулка. Воз валюхаўся на выбоінах, ныла паясніца, а па нагах, здавалася, поўзаюць калючыя мурашкі.

Стары маўча.ў, круціў лейцамі і цмокаў на свайго коніка.

Арцём Іванавіч дастаў пампяты пачак «Беламора», выкінуў некалькі адсырэлых зламаных папярос, адну падаў дзеду, узяў сам і пачаў чыркаць запалкамі, але яны ніяк не гарэлі. Стары спрытна выцягнуў з-за пазухі целагрэйкі карабок, прыпаліў і даў прыкурыць свайму седаку.

Як толькі закураць з аднаго пачка незнаёмыя мужчыны, у іх адразу развязваюцца языкі. Стары папыхкаў папяроскаю, паправіў шапку і хітравата запытаў:

— Нашчот сяўбы да нас?

— Не, зусім па другому дзелу,— нехаця адказаў Арцём Іванавіч.

— Мо па масле ці па яйку? — не сунімаўся стары.— Як кажуць, масла пагасла: ні зіма, ні вясна. Каровы мордамі зямлю таўкуць ды леташнюю жвайку жуюць.

Стары зацягнуўся папяроскаю, хітра ўсміхнуўся, відаць, нешта ўспомніў.

— Гэта можа гады чатыры таму было, калі прысядацелем у раёне быў гэты, як яго там, Цыбак ці чорт лысы, ну той, што на пензію турнулі, вы ж ведаеце, мабыць! Дык што ён удумаў? Вясна, акурат як сёлетняя, халадэча, дождж, бяскорміца, а яму яйкі 'здавай. Лектрыкі ў нас тады не было яшчэ, а ён, хітры-мудры, загадаў: хочаш літру газы ўзяць — дзесятак яечак у краму нясі. Так упоцемку і сядзелі, пакуль куры не занесліся. Казалі, курыная слепата на сяло напала. Смех і грэх. А што яму цяпер адыходзіць? Нічога не рабі, а грошыкі ідуць. Тожа гэты самы, як яго там, культ быў,— і стары дробненька захіхікаў бяззубым ротам.

Арцёму Іванавічу зрабілася горача. Язык стаў шурпаты і тоўсты, у горле перасохла, але ён перасіліў немату і загаварыў:

— Хіба ж ён сабе стараўся? Чалавек любою цаною дзяржаўныя планы выконваў, за ўвесь раён адказваў, а пра яго цяпер байкі выдумляюць.

— Хіба ж людзям стараўся? Каб народу лепей было? — перапытаў стары.— Ці пра дзяржаву дбаў? Зямля не паспее прасохнуць, а ўжо крычаць, як маладыя пеўні, ад світання да ночы: сей, сей, зводку давай, старшыню да поўначы ў раёне парацъ. Круціцца той, круціцца, адчапіцеся толькі, наце — пасеяў. Насенне ўкінулі ў халодную гразь, яно і заклякла. Затое ў зводцы густа, а ў полі пуста. От і выходзіць: любою цаною за крэсла сваё трымаўся, каб не знялі, барані божа. Гэта мяне ўжо ніжэй няма куды здымаць: як ні круці, хлебароб хлебаробам і будзе. А начальства, яно ого-го! Як прысмокчацца да карытца, не вельмі адкінеш... Но-о-о, сабатажнік! — Ён сцебануў лейцамі па худых клубах сівога канька, той трохі прабег і зноў пайшоў, валюхаючыся з лужыны ў лужыну.

Арцём Іванавіч затуліўся ў плашч, насунуў на вочы халодны капюшон і маўчаў. Пад коламі хлюпала веснавая дарога, у разорах блішчала вада, а пад кустамі ў канавах яшчэ сям-там ляжаў счарнелы сітаваты снег.

Хацелася Арцёму Іванавічу як-небудзь перавесці гаворку, але што б ні ўспомніў, за ўсё мог учапіцца гэты з'едлівы дзядок. А той і так не маўчаў:

— От і вы ўжо немалады чалавек, а ў вялікія начальнікі не выбіліся. А чаму? Не дагадзіў некаму. Значыць, мясі гразь пехатою. А нейкі малады жарабец у машыне лятае. Паражняком едзе, а каб чалавека падвезці — няма такое моды. Да нас, праўда, рэдка даязджаюць: ведама, бездараж, балота. Колькі тут гэтаю парою машын ірвецца, а чуць звярні ўбок — коні па вушы грузнуць.

— Клуб хоць у вашым калгасе ёсць? — каб толькі не маўчаць, спытаў Арцём Іванавіч.

Дзед зірнуў на яго хітранька прыжмураным вокам:

— Цырк ёсць... Но-о-о, каб табе ў рот маліна,— калёсы заляскаталі і пакаціліся з узгорка.

— Жартаўнік ты, стары, як пагляджу.

— Яй-права, цырк. От пабачыце, кругленькі, як яечка. Толькі там каровы кадрылю скачуць. Чыстата, падлога пілавіннем пасыпана, дошчачка перад кожнаю жывацінаю прыбіта — поўная анкета. Толькі гною няма... А ўсё той самы Цыбак намудраваў. З клубам, кажа, пачакаеце, а кароўнік — дзела дзяржаўнае, любой цаной будуйце. Паўпіналіся і мусілі-такі рабіць тую ферму. Каровы мерзнуць на каменнай падсцілцы. Яго б туды хоць на суткі паставіць, хай бы паляскаў зубамі... А клуба няма, галубок, няма. Эт, так, адно толькі званне, што клуб. На сходы ў хату-чытальню збіраемся, і кіншчык там часам карціны круціць. А маладым увечары і няма дзе прытуліцца. Летам на бярвенні сядзяць, а зімою па закутках туляюцца. От і бягуць з калгаса, у горад, у ціятры, у фігармонію. Яны ж вучаныя ўсе — культуру ім падавай. А ты ў сяле зрабі, як у горадзе, каб людзі бліжэй да зямлі гарнуліся, каб не ўцякалі ад яе. От...

«Ну ж і хітры стары»,— думаў Арцём Іванавіч. Яму было холадна і мулка, здранцвелі і зайшліся падкурчаныя ногі, ныла спіна, а на душы было моташна. Ён заплюшчыў вочы, абы толькі не чапіўся гэты, нібы навярэджаная скула, дзядок. Ехаць у «Чырвоную Ніўку» даўно расхацелася. А што, калі на яго лекцыю прыйдзе дзесятак такіх дзядоў і пачнуць задаваць не па тэме пытанні? І газу ўспомняць, і клуб, і дарогі, і кароўнік. Яны ж ведаюць яго прозвішча і запомнілі толькі промахі і недаробкі, а пра ўсё добрае забыліся. Ён жа стараўся, ночы не спаў, засядаў, ездзіў і зрабіў нямала. А што? Арцём Іванавіч хацеў успомніць, але дрымота завалаквала памяць: здавалася, ён імчыцца на «Волзе», стаіць за высокай трыбунай, і сотні рук апладзіруюць яму, а то ляціць на самалёце праз белае воблака, і ўсё знікае ў лёгкім тумане.

Воз матанула на выбоіне. Арцём Іванавіч прахапіўся, убачыў угнутыя плечы дзядка, на полі яшчэ не акрыялую рунь, а за ўзгоркам,

у сіняватай смузе,— хаты пад шыфернымі і гонтавымі дахамі, некалькі тэлевізійных антэн. Ого, от табе і «Ніўка»!

За сялом стаяла вялікая круглая будыніна, сапраўды падобная на цырк.

Стары болей не круціў лейцамі — дадому конік бег сам.

— Куды ж вас даставіць, таварыш паўнамочны? Гасцініцы пакуль што не імеецца, да старшыні заязджае толькі вярхушка, а пешых ставяць нанач па хатах.

Арцём Іванавіч не ведаў, што і сказаць, маўчаў, як малое пакрыўджанае дзіця. Ён ведаў, што яго цяпер ніхто не будзе сустракаць, запрашаць і ні аб чым не будуць прасіць. А зусім нядаўна... Няўжо не яго паважалі, а толькі пасаду? І так зрабілася горка, што жыццё прайшло і ўжо нічога ў ім не перайначыш. А калі б не прайшло? Мабыць, пражыў бы яго трохі іначай...

— Калі няма куды, дык у мяне заначуеце — хата вялікая. Тпр-р-ру. От і прыехалі.

1963

## ВАРНАК

Я заблудзіўся ў тайзе. Ліпнёвае сонца ледзь прабівае лясны гушчар — змрочна, парна і вусцішна. Сінявата-зялёныя хвашчы з чорнымі падпалінамі на суставах выцягнуліся ў чалавечы рост, шастае і хапае за рукавы трава-разун, на колішніх выгарах разлапушыўся і ківае ружовымі султанамі Кіпрэй. Мітусіцца, гудзе і дзынкае плойма сытых аваднёў. Нячутна прыліпаюць шэрыя сляпні і тупым болем працінаюць змакрэлыя плечы. Замшэлыя вываратні пазавальвалі ледзь прыкметныя лясныя сцежкі.

У такой гушчэчы апаноўвае страх. Нават самаму разважліваму чалавеку пачынаюць верзціся лесуны і страшыдлы: разгаты вываранцень здаецца ўчэпістым павуком, сухая галіна — яшчарам, струхлелы пень — зеленабародым лесавіком. Тахкае, аж заходзіцца сэрца. Падыдзеш бліжэй, усміхнешся, а на цябе з таежных завалаў ужо глядзяць новыя пачварныя прывіды.

Трымціць гонкі асіннік, лена пагойдваюцца цёмныя верхавіны кедроўніку, шапацяць мяккія лапы лістоўніц, пырхаюць сініцы, цінькаюць дразды, іржавым рыпам скігоча сіваграк, а недзе на верхавіне глуха, як у дамавіну, грукае дзяцел. Нямераная, няходжаная тайга жыве. Але колькі ні гукай, колькі ні крычы — ніхто не пачуе і не азавецца.

Няўжо так нікуды і не выб'юся? Куды ж тут выб'ешся, калі на сотні вёрст ні жывое душы, ні сяла, ні заімкі — тайга і тайга. І панесла ж нялёгкая шукаць тыя нікому не вядомыя дзялянкі, каб накасіць на бясконца доўгую сібірскую зіму сена на каня і двух валоў. А каму ж ісці, як не мне? Наняўся гаспадарнікам у сямігодку, от і ламай галаву, як пракарміць сваіх падапечных, каб навазіць дроў школе і настаўнікам, выцягваць бярвенне на прыбудоўку да сталярні.

Эт, адна толькі назва— «загадчык гаспадаркі», а так — конюх, стальмах, рымар, адным словам — папіхач, хто куды пашле. Каб трымалі, трэба прыкідвацца майстрам на ўсе рукі. Як толькі наняўся, дырэктар загадаў зрабіць вось да старога зламанага воза. Што будзеш казаць? «Зраблю». А як яе рабіць, ліха яго ведае. Так-сяк вычасаў плаху з кручанае-перакручанае бярэзіны, пракруціў у падушцы дзірку пад шворан, абстругаў канцы, а загваздкі паставіў наўскасяк. Можа і цяпер нехта ездзіць на тым возе і кпіць з недалужнага «стальмаха». З работай неяк выкручваўся, а з тайгі ніяк не выцерабіцца. Замарачэнне, дый толькі. Як ні глядзі на сонца — вісіць над галавою; кажуць, па свежых пнях можна ўбачыць, дзе поўдзень, а дзе поўнач, але

ж знайдзі таго пня! Тут, відаць, ніколі не ступаў чалавек. Адны вываратні ды буралом.

Зноў лезу ў гушчар: няхай трохі пахвошча вецце ссечаную сляпнямі і аваднямі спіну. Перапаўзаю цераз аслізлыя, замшэлыя вываратні. Ой! Здаецца, наперадзе трошкі пасвятлела. Прадзіраюся праз калючы шыпшыннік, густы падлесак, расхінаю вецце — і спыняюся, расчараваны. Над маленькім, зацягнутым слізкім жабурыннем, азярцом прабілася сонца, берагі абступіў густы сіняваты чарот, і, як змяіныя галоўкі, пагойдваюцца аксамітна-карычневыя таўкачык^ У цёмную ваду плюхаюцца і крумкаюць спалоханыя рапухі. За азярцом густа сплёўся малiннiк. Буйныя ягады згінаюць вецце і п'яняць салодкім духам. Тут, відаць, ніхто не сарваў ніводнае ягадзіны: пераспее, асыпецца і датлее на волкай зямлі. А малін — аж чырвана. Жменямі сасмыкваю халаднаватыя замглёныя чашачкі, каб хоць трохі прагнаць смагу, адысці ад стомы і супакоіцца.

А можа недзе побач, у гэтым малінніку, шастае іх спрадвечны гаспадар — мядзведзь? Куды тады дзецца, як ратавацца? Успамінаюцца таежныя выпадкі і здарэнні, але нічым не магу суцешыцца. Прыгадалася, як надоечы наша селавая бабылка цётка Дуня пайшла ў маліны, убілася ў такі ягаднік — канца-краю не відно. Набрала вядзерца, а маліны, чым далей, тым буйнейшыя і спялейшыя. Прагны чалавек на дармаўшчыну. Ну як тут пакінеш? Браць няма куды, а яна ўсё латошыць ды жменямі ў рот, у рот: «Дай,— думае,— хоць наемся ўволю». Аж чуе, нехта шамель-шамель па малінніку. Толькі падумала: «Няўжо і сюды дапялі кардонаўскія ягадніцы?»— проста на яе прэцца нешта вялізнае і калматае: нагне лапаю куст — сасмоктвае сабе ягады. Падхапіла баба вядзерца ды ходу. Выцерабілася з гушчэчы. Куды кінуцца? Аж тут, як на тое шчасце, стаіць сагнутая бярэзіна. Шкода кідаць вядзерца, а хіба ж з ім уздзярэшся? Паставіла каля камля і спрытна, нібы каланок, узлезла на самую сярэдзіну. Адкуль тая і сіла ўзялася? Бярэзінка гойдаецца пад ёю, рукі дрыжаць, ледзь ліпіць старая. А ён, крывалапы, валюхаецца з боку на бок і павольна ідзе да яе. Задраў пысу, панюхаў, чмыхнуў, глядзіць, нібы ўхмыляецца, маленькімі вочкамі, пакаціў вядзерца, лёг на траву і трушчыць сабе маліны на поўную зяпу, выграбае лапай і хрумстае. «Што ж ты робіш, гультай? — сварыцца старая.— На гатовенькае ласы. А назбіраць хвор? Каб цябе чэрві елі». Мядзведзь аблізаўся і, не раўнуючы, як малое дзіця, пачаў качаць вядро, біў, біў лапаю па баках, пакуль не спляскаў у аладку. Зірнуў на бабку і давай куляцца цераз галаву. Ляжа на спіну, перабірае лапамі, пераваліцца з боку на

бок, стане на заднія лапы і «служыць», як тое шчанё. Малады яшчэ, дурэць, відаць, любіў.

Рукі ў старой дранцвеюць, а сядзіць, трымаецца. Так да змяркання пацяшаў бабку Дуню гаспадар таежных маліннікаў. Потым устаў, атрося, пазяхнуў і падаўся ў гушчар.

Усё гэта ўспомнілася ў адну хвіліну. І я сабе нагледзеў сагнутую бярэзінку, пастаяў, прыслухаўся. Толькі шамаціць чарот над возерам ды крумкаюць жабы. Зырка смаліць сонца, соладка пахне маліннікам і настоенай на леташнім лісці вадой азярынкі.

Але любавацца дзікай прыгажосцю няма калі — трэба некуды прабівацца, каб хоць завідна выйсці з гэтае гушчэчы. Расхінаю мяккае лісце з белай падпушкай і лаўлю губамі спелыя ягады.

«Тук-тук-тук...» Пэўна, дзяцел. Насцярожваюся. Не, стукат замаруджана глухі. Вушы выцягнуліся, як у зайца, хвіліну не дыхаю. Раптам зашумела, затрашчала і вухнула, аж зыбанулася пад нагамі зямля. Усё сціхла. Потым зноў тоненька, са звонам — тук-бразь, тук-бразь. Няйначай, нехта валіць лес, абсякае суччa. Няўжо ёсць жывая душа ў гэтых непралазных нетрах?

Як праз калючы дрот, прадзіраюся цераз пераплецены malіннік: асыпаюцца, трушчацца пад нагамі ягады, хвошчуць па твары дубцы, спатыкаюся аб сапрэлыя пні, лезу пад вываратні, з-пад ног выпырхваюць патрывожаныя птушкі. А стукат усё бліжэй і выразней. Ад радасці хочацца закрычаць, каб пачуць жывы голас у адказ, але стрымліваю сябе: чаго добрага, яшчэ напалохаеш лесаруба, падумае, ці не ляснік часам, зашыецца пад вываратні і не знойдзеш.

Я ўжо не адбіваюся ад заедзі, хоць яна гудзе, гойдаецца густою сеткаю і працінае цела нясцерпным свербам. Смыляць пасоленыя потам драпіны на руках, ледзь варочаецца шорсткі, як суконка, язык. За кустамі светла-зялёнымі струнамі трымціць асіннік, цягне курадымам, выразна чуваць, як цюкае сякера па хрусткім суччы. Паказалася нечая спіна і сівая кудлатая галава. Радасць перахапіла горла, але сцішваюся, выціраю шапкаю пот, стараюся ісці павалена, нібы ніколі і не блудзіў.

Высокі і тонкі, як хлудзіна, дзед цярэбіць гонкую, з адламанаю верхавінаю асіну.

— Гах-гах-гах!..— пакрэктвае ён, спорна махае звонкаю сякер-каю і, відаць, не чуе, як шапаціць і патрэсквае пад маімі нагамі сухое вецце. А можа толькі прыкідваецца. Я ведаю стрыманасць сібіракоў і не дзіўлюся іх маўклівай суровасці. Спыніўся побач, а ён сабе і не шманае. Павітаўся. У адказ толькі гах-гах-гах — адлятаюць белыя, як

скрылі рэпы, трэскі. Няўжо глухі? Потым дзед павярнуўся, уваткнуў у пянёк сякеру, зірнуў злінялымі вачыма:

— Здарова, паря. Калі памагаць, бяры сякеру, а палуднаваць — прыпасай лыжку.

Над пасівелым ад попелу вуголлем у закураным кацялку даправала варыва. У тайзе чалавека звычайна корміць тайга. Не толькі ягадамі і грыбамі. У гушчары растуць тоўстыя саладкаватыя дудкі з парасончыкамі, як на кропе. Завуць іх чамусьці «пікапамі». З іх здзіраюць ружавата-зялёную скуру і са смакам грызуць малыя і старыя. Крышаць пікапы ў шчаўе і крупнік, параць у чыгунках і гаршэчках. Тоўстыя цырубалкі плавалі і ў дзедавым кацялку.

Я ўзрадаваўся, пазнаўшы ў лесарубе дзеда Данілу. Ды дзе яго было адразу пазнаць? Звычайна сагнуты, завялы і шэры, з патухлымі слязлівымі вачыма, шаркаў ён па сяле латанымі-пералатанымі чыркамі — хадзіў часам ад аднае да другое нявесткі. Чацвёра яго сыноў не вярнуліся з фронту, жонкі даўно не было на свеце, і адзінокі дзед Даніла дажываў век у невялічкай лазні, перарobленай пад хату. Бывае, зойдзе да нявесткі, сядзе на парозе, смокча адну за другой цыгаркі з моцнага самасаду, маўчыць, толькі жмурыцца ад едкага дыму, а можа і так ад чаго. Вытра карычневым закураным пальцам вочы, глядзіць на ўнукаў і толькі часам уздыхае. Відаць, успамінае сыноў у такім веку, як гэтыя хлопцы, а можа перабірае ў памяці сваё доўгае, ухабістае і каструбаватае жыццё.

Дзеда Данілу часам называлі «варнаком». Мянушка катаржніка ніяк не стасавалася да яго мяккага, зрэзанага глыбокімі разорамі, рахманага аблічча. Цяпер ён быў не такі: выпрастаўся, ускудлаціўся, расчырванеўся, у росхлісце задубелай ад поту палатнянай кашулі аж ільсніліся змакрэлыя вузлаватыя грудзі. На скручаных, як старое карэнне, руках набраклі тоўстыя жылы. Лязо вострай сякеры пабліскваа, калі, ён, нібы гуляючы, абсякаў свежае кучаравае голле. Пахла вільготнаю асінаваю гаркатою.

Дзед спляжыў ладную грыву гонкага ассініку, адмяраў і адсякаў шасціметровыя бярвенцы і без натугі выбіраў паз, высякаў чашку вугла, здзіраў з бервяна доўгія палосы тоўстай, мяккай кары, аж пырскала ад слізкай дзеравіны. Усё рабіў павольна, але вельмі спорна. Захлісне на чашку пятлю, перакіне цераз плячо вяроўку — і слізкія бярвенні, здаецца, самі бягуць следам туды, дзе ўжо складзены свежыя вянцы зруба. Ніжнія бярвенні прывялі і пажоўклі.

— Што гэта вы робіце, дзядзька Даніла?— пытаюся я.

— Хіба не бачыш?— і, памаўчаўшы, дадае: — Хату.

— Якая ні з асінніку хата?

— Гэ, парня, краснае дзерава перад асінаю не дакажа. Зальецца сокам, усохне, закасцянее — сякера адскоквае. Ні шашаль табе не паточыць, ні грыбок не завядзецца. Звон звонам хата будзе. А свежую, неакораную асіну што капусту шаткуеш. Даўней толькі з асінніку і стаўлялі.

Ён уваткнуў сякеру, сеў на слізкі хлыст і пачаў раскручваць доўгі скураны капшук. Побач прысеў і я. Плойма аваднёў лезла ў вочы, секла рукі і плечы, а каля дзеда толькі круціліся і ніводзін не садзіўся. Ён з ухмылкаю глянуў, як я адбіваюся ад заедзі:

— Адразу пазнаеш, што з Расеі. Любяць тутэйшыя павуты свежага чалавека.

— А чаму вас не чапаюць?

— Слова ад іх, ірадаў, ведаю, ды і скура на мне тоўстая — смаку таго няма,— хітра ўсміхнуўся стары.

— Не, праўда. На мне жывога месца няма, а да вас — ані блізка.

— Гэта ты ў школу хазяйсцвенікам наняўся? Граматны, мабыць. Па табе відно. А толку з твае граматы? Павуты з'ядуць, і знаку не астанецца. Наш брат месяц тут пражыве, і ніякая трасца не бярэ,— дзед пацмокаў цыгаркаю.— Хочаш — навучу. Слухай сюды. Прыйшоў, значыцца, у тайгу. Першым дзелам кладзі агонь. Нацягай парахні, каб жалела толькі і дыму болей давала, лажыся і качайся ў куродыме, пакуль добра не ўвэндзішся. Акурыўся — чашы смела, ніякая халера не зачэпіць. Круціцца будзе, а сесці не адважыцца. Вычхаецца, павут знак падасць — зноў акурвайся. Онь, бачыш трухлявы пень, падкінь на вуголле і пакруціся ў дыме.

Я паслухаўся дзеда. Дым выядаў вочы, душыў і апякаў твар. Нялёгка давалася таежная навука. А як толькі вылез з куродыму, ніводзін авадзень не лез на мяне.

Даніла не распытваў, чаго бадзяюся па гушчары і як трапіў сюды. Відаць, здагадаўся, як прабіраўся да яго. Ён закарэлаю лыжкаю згроб з варыва попел, пабоўтаў у кацялку, падаў мне з торбы новенькую альховую лыжку. Я памкнуўся падзякаваць і адмовіцца.

— У тайзе даюць — бяры, просяць — апошнюю скарынку разламай. Іначай тут бы і людзі перавяліся... Цяпер што? Машыны ходзяць, лектрыка гарыць, Гэтыя стракозы-ветралёты лётаюць. А даўней — на сотні вёрст ні жывое душы. Толькі мядзведзя ды сахатага і стрэнеш. Дзед высыпаў з торбы на траву вараную бульбу, падсунуў мне кацялок:

— Сёрбай, байкамі сыт не будзеш,— а сам адышоўся і пачаў выдзіраць з карэйцамі нейкае доўгае зелле. Атрасе, патрэ аб траву і хрумстае маленькія белыя зубочкі. Запахла часнаком.

— Што гэта?— запытаў я, сёрбаючы не то крупнік, не то кашу з аўсянай мукі і піканаў.

Дзед кінуў мне жменьку зелля.

— Чарамша завецца. Скусная, халера. Хто есць — да ста гадоў зубы як часнок. А ты малады і ўжо шчарбаты. Мне дык не верыцца, як гэта могуць зубы балець. Костка — і баліць. Дзіва!— ён вышчарыў трохі з'едзеныя, але роўныя і цэлыя зубы.— А яшчэ серу трэба акаваць. Не тую, што караслівых коней параць. Ад елкі смолкі накалупай, дай ёй прывянуць і чмякай у роце,— і заключыў: — Усё навука, браце.

Я адсунуў кацялок і хацеў падзякаваць за пачастунак. Дзед паставіў яго назад і сеў побач:

— Сёрбай, сёрбай. Усім хопіць, не на аднаго ж варыў.

— А на каго яшчэ?— спытаў я, баючыся, што ем нечыю порцыю.

Дзед усё бачыў, усё разумеў і хуценька супакоіў:

— Вары заўсёды з паходам. Смачна запахне, глядзіш, некага бог і прынясе. Каб ты не прыбіўся, чаго добрага, і гаварыць развучыўся б. Тыдзень як тут, і хоць бы табе жывая душа.

— Не страшна тут аднаму?

— Яшчэ мой небарака бацька, царства яму нябеснае, некалі казаў: «Баючыся трэску, і ў лес няма чаго хадзіць». А я пужаны-перапужаны.

Я здзівіўся: дзед загаварыў па-беларуску. Тут, за некалькі тысяч кіламетраў ад дому, ад замшэлага дзеда пачуць родную мову! Можа ў маёй гаворцы загучала нешта знаёмае ці пачулася роднае і яму?

— Адкуль вы ведаеце нашу прымаўку» дзядзька Даніла, і гаворыце, як у нас?

— Так ужо і твая? Я от такенечкім яе чуў,— Дзед спакойна сёрбаў варыва, на вусах і барадзе завісалі аскабалкі піканаў і кроплі густой аўсяніцы. Насёрбаўшыся, адклаў лыжку.— Можа прачуваў калі, ёсць такі Барысаў-горад. Адтуль я, Зембінскай воласці, дзярэўні Сухадол. От дзе праўда: сухадол дык сухадол. Не дурны нехта прыдумаў. Пясок — як прысак. Ракіта і асот толькі і родзяць.

— Выходзяць, мы з вамі землякі,— узрадаваўся я.

— Па аднэй зямлі ходзім, значыць, землякі і ёсць. А ты ж адкуль?

Я сказаў, што мы амаль суседзі, і спытаў, ці даўно сюды дзед пераехаў.

— Чорт бы яго паехаў, каб Мікалашкавы стражнікі не прывезлі. Катаргі от пасюль нахлябаўся, а на закуску на вечнае пасяленне саслалі. Пажыў, агледзеўся і карэнні пусціў тут. А скінулі Мікалая, куды дзенешся? Дзеці абселі, кубло звіў, сваім духам сагрэў яго, карчы рваў

на лядах, зямлю ўрабіў, хоць ты на хлеб маж.— Ён памаўчаў.— Усіх перажыў, адзін астаўся, як тычка ў полі. Горка аднаму. А хлопцы ў мяне былі — камель у камель. З'ела вайна, і сам той ірад апруцянеў ад крыві праведнай.

Злінялыя вочы старога завільжэлі, зноў сагнулася спіна. Мы маўчалі. Толькі было чутно, як трапятала, нібы прывязаныя матылькі, асінавае лісце. Мне карцела дазнацца, за што дзеда ўпяклі на катаргу і ў вечную ссылку, але ў гэтую хвіліну няёмка было распытваць. Дзед Даніла нібы пачуў маё маўклівае пытанне і сам на яго адказаў:

— Тады, брат, ссылалі толькі за дзела. От хоць бы я. Думаеш, увесь век быў такі рахманы? Бушаваў ззамаладу. Шайку дзяржаў. Чаго глядзіш? Не бойся! Было ды сплыло. Не ведаў, куды сілу дурную дзець. А можа і не дурную, ліха яго разбярэ. Пэўна, у тым Сухадоле лапці даўно адкінуў бы ці на вайне галаву б склаў. А так яшчэ калываюся. Цікава паглядзець, што з светам робіцца... Шайка мая ад Барысава да самае Оршы грымела. Паязды чысцілі. Панкоў з першага класа ператрасалі, паштовыя і багажныя вагоны паражнілі. А з простага чалавека і волас не ўпаў. Разбіраліся. Бывала, пасвецім чырвоным ліхтарыкам, пасажырскі і стане. Тут ужо ўпраўляйся, пакуль дойдзе да станцыі і трывогу падніме. Трасянём, на коней — і дай бог ногі. Ад'едземся вёрст за дваццаць, спутаем коней, а самі спаць. Начлежнікі — паспрабуй прысукацца. А аднаго разу выпусцілі з сталыпінскага вагона арыштантаў. Казалі, паліцічаскія былі. Тут і ўзяліся за нас. Стражнікі з жандармамі ўвесь павет сталачылі. Сядзелец з манапалькі прадаў, хоць і даход яму давалі; прадаў, сука, а ў сведкі ісці пабаяўся, каб не глядзець нам у вочы,— стары смачна плюнуў і замоўк.

— А што далей?

— А далей — доўгая песня, браце. За тыдзень усяго не абскажаш. Прыходзь у мой катух,— пагаворым, а цяпер няма калі.— Стары сходзіў да копанкі, апаласнуў кацялок і лыжкі, паклаў іх сушыцца на свежы пянёк і зноў узяўся за сякеру.

— Навошта вам так рвацца? Хатка такая-сякая ёсць, жылі б сабе паціху.

— Думаеш, сабе стараўся б так? А да дзерава я прывычны. За свой век настаўляў пяцісценак, лазень, прытонаў, шчытай, на цэлае сяло. Усім сынам будавацца памагаў. Думаў, на старасці аддыхну і парадуюся. Аж трасцу! Цяпер унукам памагаю — сіраты ж! Разлятацца рвуцца. Адзін Гошка, можа ведаеш, што канюшыць пры маладняку, зямлі трымаецца. І Таіска Матроніна дзеўка ў яго добрая. Пажэняцца, а са свякрухаю доўга не нажывеш. Люблю яго, шэльму,—

выліты бацька. Дай, думаю, хату зрублю. Мабыць, апошнюю. От закончу, складу, размечу кожнае паленца, плашак на столь начашу, тады і скажу: «Забірай, унучак». Перавязем, зробім помачы, за дзень і хату паставім. Можа хто ўспомніць дзеда.

Ён папляваў на далоні — цюкаў, нібы гуляючы, а бервяно да бервяна прыставала, як улітае. Я залыгаў вяроўкаю слізкі акораны камель і пацягнуў да зруба, потым другі, трэці. Заедзь болей не секла мяне, на душы было спакойна і добра. Але хочаш не хочаш, а дадому трэба ісці. Я ўжо ведаў, у які мне бок кіравацца, хоць і пабойваўся, каб не збочыць і не заблудзіцца ізноў. А дзед нібы лавіў мае думкі:

— Усё адно ўсяго не перацягаеш, ды і загуляўся ты. Чаго добрага, каб шукаць не пачалі. Чашы-тка ты, міл чалавек, дадому. Сам управлюся.

Я чарпануў берасцяным карцом з копанкі рудаватае вады, напіўся, рэшту выліў на рукі і апаласнуў твар, адчуў свежасць і сілу.

— Дарогу хоць ведаеш? — хітра зірнуў дзед Даніла.

Я маўчаў.

— Выходзь в-о-о-нь на тую візіру, з левай рукі ўбачыш залысіны, па ёй і чашы. Лажок пяройдзеш — халадком ад рэчкі пацягне, яна да паскоціны і выведзе.

Я падзякаваў дзеду і падаўся ў гушчар.

— Ты ж толькі нікому не кажы, што бачыў мяне тут. І пра хату ні слова. Кончу, сам аб'яўлюся і ўнука парадую. Па сонцу ідзі — ніколі не саб'ешся,— крыкнуў услед, дзед Даніла.

Я памахаў яму рукою і выйшаў на візіру. Дым, мабыць, паспеў выветрыцца, і авадні ўсё смялей даймалі мяне. Я адбіваўся ад іх галінкаю і ішоў, жмурачыся ад сонца. Цяпер і лес павесялеў і пасвятлеў. Далёка было чуваць, як стукае дзедава сякера, і ў вушах усё яшчэ гучаў яго глухаваты голас.

1963

# СУВЕНІРЫ

## НЯВЫДУМАНЫЯ НАВЕЛЫ

Да ад'езду аставалася тры дні. Афармлены дакументы, зроблены прышчэпкі, куплены паста, мыла і сігарэты.

Што яшчэ трэба? Самае галоўнае — сувеніры. Але дзе знайсці такія, каб узрадавалі будучага знаёмага, што сустрэнецца недзе на далёкіх дарогах? Арыгінальныя, прыгожыя і танныя сувеніры адразу не знойдзеш. Але трэба шукаць. Размаляваных бярозавых лыжак і матрошак за апошнія гады турысты вывезлі за мяжу, напэўна, некалькі вагонаў. І ўсё мала.

Што б падараваць такое, каб будучаму добраму Другу было прыемна ўспомніць не толькі цябе, колькі тваю краіну, умельства і талент тваіх землякоў, дабрату і шчырасць народа, што паслаў цябе ў адведзіны да блізкіх і далёкіх суседзяў?

От і бегаў, шукаў, выбіраў, купляў. Потым шчодра раздорваў цікавым людзям, з якімі выпадкова зводзіў лёс, каб пасля ўжо, мабыць, ніколі больш не стрэцца. Як прыемна дарыць, як добра прыносіць людзям радасць!

Ці берагуць яны сувеніры? Ці помняць тую сустрэчу? Це ведаю. А мне многія яны запомніліся і не забываюцца з гадамі. Успамінаецца рэч і чалавек, якому яе падарыў. І ў кожнага сувеніра свая маленькая гісторыя. Можа некаторыя варта расказаць?

Прыгадвалася першае знаёмства ў Капенгагене, каля славутага фантана.

### ГЕФІЁН

Данія сустрэла нас імжою і туманам. Адзінокая Русалачка з абымшэлага каменя глядзела журботна і задуменна. Яна прыйшла сюды з Андэрсенаўскай казкі, і капенгагенцы ўжо не ўяўляюць прычал, свой горад і сябе без пазелянелай ад салёных пырскаў бронзавай дзяўчынкі, што сустракае і праводзіць караблі, аднолькава зажураная і самотная. Калі нейкія злачынцы адпілавалі і ўкралі русалчыну галоўку, капенгагенцы адзелі жалобу. Аднавілі скульптуру — у горад прыйшла сапраўдная радасць. Нібы адбыўся найвялікшы цуд: Русалачка ўваскрэсла. Мірны і таленавіты народ часцей за ўсё стаўляе помнікі любімым казачным героям. На спатканне да іх ходзяць з маленства да старасці. Мяняюцца каралі, а помнікі

астаюцца. Русалачка дорыць кожнаму радасць найчысцейшай прыгажосці і трошачкі шчымлівай тугі па некім дарагім і далёкім, каго чакаеш і не можаш дачакацца.

Не бачыць у Капенгагене Русалачку тое самае, што не ўбачыць у Рыме Калізей, у Ленінградзе — Ісакій, у Маскве — Васілія Блажэннага. Таму на Лангелініі зранку да ночы гудуць і пстрыкаюць фотакамеры, і па свеце разыходзяцца мільёны здымкаў безнадзейнай у сваім вечным чаканні бронзавай дзяўчынкі.

Да порта падыходзяць шырокія вуліцы ў тапалёвых прысадах. Але на вуліцах няма ніводнага чалавека. Куды ж дзеліся людзі? Дзе сталічная мітусня, шастанне колаў і гул машын? Капенгаген як вымер. На пустой плошчы нас чакаюць турысцкія аўтобусы, каля іх шпацыруюць адпрасаваныя і начышчаныя шафёры. Вось і наш гід — сухарлявая, у вялікіх рагавых акулярах і чырвоным берэце — мадам Эма Фок. Яна заўважыла наша здзіўленне.

— Не дзівіцеся. Так, горад пусты. Ён апусцеў у пятніцу з вечара: усе капенгагенцы за горадам, на дачах, на рэчках, у лясах і ў вёсках. І так кожны выхадны. Сёння к вечару зноў закіпіць жыццё. Пабачыце самі. А цяпер прашу прайсці крокаў дзвесце. Наш аўтобус падыдзе туды.

Мы ледзьве паспявалі за даўно немаладой, падобнай на колішнюю класную даму, мадам Фок. Звярнулі направа і выйшлі на невялікую плошчу, акружаную старымі разгалістымі таполямі, усыпанымі грачынымі гнёздамі. Несціханы грай і лапатанне крылаў неспакойных птушак нагадвалі нашу, але блакітнейшую і ласкавейшую вясну. Тут пахла тапалёваю смолкаю і свежым марскім ветрам. Пасярод плошчы аж страляў, шумеў і клекатаў агромністы фантан, хвалі білі і заварочваліся, як барозны свежай раллі. Над імі згіналіся дужыя шыі чатырох напружаных у апошнім рыўку буйвалаў. Здавалася, трымціць кожная жылка, падломваюцца ногі, з ноздраў, як пара, б'юць тонкія струмені вады. Адзін лабатую галаву ўвагнуў да самых капытоў, другі да хрусту напяў пастронкі і звярнуў крутую шыю, сярэдні, трэці, ад напружання аж вырачыў вочы. Здаецца, яшчэ рывок — і яны паляцяць у кіпень вады. За плугам — статная, як антычная багіня, маладая жанчына. Уся яна — напружанне і рух. Высока ўзняты тонкі бізун захліснуўся на спіну магутнай аратай. Здаецца, зараз засвішча і перацягне па чатырох крутых буйвалавых спінах. Вадзяныя скібы баразён з шумам выкочваюцца з-пад сахі і знікаюць у вялікім басейне.

— Гэта Гефіён — багіня ўрадлівасці,— тлумачыць наш гід,— Данія размясцілася на чатырохстах камяністых астравах, адваяваных у мора. Спрадвеку існуе легенда: Гефіён пачала прасіць бога, каб даў

ён хоць трохі зямлі. «Усё, што ты заарэш за адну ноч, будзе тваё»,— адказаў Саваоф. Тады Гефіён ператварыла сваіх сыноў у буйвалаў, запрэгла іх у саху і арала да самага світання. Што яна паспела ўзараць, стала Даніяй. Таму многія датчане казачную жанчыну шануюць болей за самога бога.

Непадалёк нехта гучна запляскаў у далоні. Мы ўбачылі нізенькага дзядка ў доўгім белым халаце, у шапцы з белым верхам і з чорным блішчастым казырком. Ён стаяў каля трыногі са старым пашарпаным дагератыпам, глядзеў угару і камусьці гучна апладзіраваў. Паглядзелі і мы ў той бок. На стромкай вежы гарадской ратушы з адчыненага акенца павольна выязджала на веласіпедзе маленькая пазалочаная жанчына. Ёй і апладзіраваў стары фатограф.

— Пазалочаная веласіпедыстка абяцае сёння ясную пагоду, вось і радуецца стары Б'ерне, што будзе сонца і будзе ў яго работа,— тлумачыла мадам Фок.— А з'явіцца жанчына з парасонам, чакай туману і дажджу. Пазалочаная веласіпедыстка радуе нас не вельмі часта, таму і шчаслівы сягоння стары фатограф: будзе свежая капейка. Ён тут заўсёды сустракае і праводзіць турыстаў. Зрабіце і вы яму ласку.

У кожнага з нас напагатове свой фотаапарат, але ўсё ж трэба ўважыць гэтаму медзведзяватаму старому. Ён бачыць, што ідзём да яго, мітусіцца каля сваёй дапатопнай «гарматы», закладвае касету, ідзе насустрач, здымае шапку і пачціва кланяецца нам. Адны гавораць яму «Бон жур», другія «Гутэн таг». На гэтым урэшце вычэрпваецца наша веданне еўрапейскіх моў.

— О-о, Москва! Страстуйте! — засвяціўся ўсмешкаю стары, забегаў, як самы ўвішны рэжысёр, ставячы нас перад сваім дэгератыпам. Зірне ў апарат і зноў бяжыць — некага просіць пасунуцца, некага — прысесці. Потым падняў руку — сапраўды, як перад стрэлам з гарматы.

Пакуль Б'ерне праяўляў здымкі, я да яго халата прышпіліў маленькі значок Леніна, жанчыны дарылі нейкія дробязі, мой сусед па каюце даў пачак цыгарэт «Беларусь». Б'ерне вельмі шчыра дзякаваў нам і нешта казаў перакладчыцы.

— Хвіліначку, панове,— затрымала нас мадам Фок,— маэстра мае нешта вам сказаць.

Б'ерне падышоў бліжэй. На яго прыпухлых шчоках выступілі дробненькія сіняватыя жылкі, ён набраў паветра і бязгучна заварушыў вуснамі, потым загаварыў ціха, нават трошкі таямніча:

— Калі мне было чатырнаццаць гадоў, я разносіў ранішнія газеты. Кожны дзень на вуліцы Вестэрбро мне сустракаўся невысокі мужчына ў чорным кацялку, з парасонам у руках. Ён заўсёды весела

мне махаў парасонам і купляў цэлы пачак ранішніх газет. Калі ён тут жыў, я пачынаў свой абход з Вестэрбро: пачак адразу меншаў, лягчэй было яго насіць. Але аднойчы мужчыны ў кацялку я не сустрэў. Думаў, можа захварэў ці дзе затрымаўся. Не было яго на другі і на трэці дзень. Здавалася, я нешта вельмі важнае страціў, але абход пачынаў усё з тае вуліцы. Так больш ніколі і не сустрэў яго на Вестэрбро.

Праз сем гадоў увесь свет загаварыў пра вашу Расію. Я ўжо не насіў газеты — рабіў сямейныя фатаграфіі, віньеткі, кабінетныя партрэты. І купляў тую ранішнюю газету. Разгарнуў аднойчы — і вачам не паверыў: з першай старонкі глядзеў мой былы пакупнік, трошкі пастарэлы і стомлены. Гэта быў ваш прэм'ер. Ё-о-н...— Б'ерне адхінуў шліфт халата і паказаў значок.— Каб я тады ведаў, хто ў мяне купляў газеты...— ён цмокнуў і прыклаў руку да шапкі. Мы заапладзіравалі, а стары пакланіўся, як артыст, сыходзячы са сцэны. Усе доўга і горача развітваліся з ім.

— Няўжо гэтая сустрэча была запланавана для нас? — спыталі мы ў мадам Фок.

— Я хацела вам толькі паказаць Гефіён, а што Б'ерне сустракаўся з Леніным, сама пачула ўпершыню.

На змярканні мы пакідалі Капенгаген. Наш цеплаход, расквечаны ўсімі агнямі і сцягамі, праводзіў вялізны натоўп датчан: гаманілі, нешта вясёлае крычалі, махалі капелюшамі і хустачкамі. У святле пражэктараў, здавалася, Русалачка сышла ў ваду і журботна глядзіць нам услед.

Калі пачаў аддаляцца прычал, нехта зайграў на трубе «Інтэрнацыянал». Гэтае сола ў паўночным каралеўстве гучала мацней за самы магутны аркестр.

Над намі было зорнае неба, пад намі — зорнае мора, наперадзе чакалі новыя краіны і сустрэчы.

Праз два гады пасля падарожжа я разгарнуў свежы нумар «Недели» і на здымку адразу пазнаў аднапавярховы дом каля фантана Гефіён. Пазнаў і фатографа, у халаце і ў шапцы з белым верхам. Карэспандэнт расказваў пра дацкую сталіцу і, зразумела, не мог абмінуць старога Б'ерне.

Апошнія радкі нарыса балюча ўразілі нечаканай навіною: «У той апошні дзень, калі з вежы ні разу не паказалася пазалочаная дзяўчынка, калі над горадам імжыў жождж, фатограф прастудзіўся і злёг. Ён так болей і не падняўся».

Я ўявіў апусцелую плошчу Гефіён. Ніхто цяпер не сустрэне воплескамі залатую веласіпедыстку на вежы гарадской ратушы, ніхто каля фантана не прывітае турыстаў.

Я адшукаў картку, на якой быў зняты стары Б'ерне.
Яна доўга стаяла на маім стале.

## ЛОРДУ НА ЎСПАМІН

Лонданскае Сіці пусцее, як толькі зачыняюцца канторы і банкі. Банкаўскія будынкі без вокан, і лонданцы жартуюць: «Бачыце, нам усім не давяраюць». Толькі ў самым пачатку змрочнага Сіці стаіць прысадзісты дом з вясёлаю неонаваю рэкламаю «Колониаль а гаусэ Мекка». Над уваходам пагойдваюцца кантовыя ліхтары часоў Дзікенса, за дзвярыма стаяць жалезныя рыцары з апушчанымі забраламі і жывы лёкай у стракатай ліўрэі. Ён з прафесійнай ветлівасцю запрашае заходзіць, а рыцар, здаецца, зараз сцісне за плячо цяжкаю металічнаю далоннню і спытае: «А табе чаго тут трэба?»

Шмыгаем каля рыцараў і ў люстранай сцяне пазнаём сябе ў пярэстым натоўпе, падвоеным і патроеным суцэльнымі люстрамі.

Карпарацыя «Мекка» трымае дзесяткі такіх залаў і па заказах забяспечвае прыёмы, банкеты і вечары любога маштабу, кошту і на любым узроўні. Сёння таварыства «Вялікабрытанія — СССР» прымае восемсот савецкіх турыстаў. Зала, велічынёю з добры ангар, застаўлена сталамі з вінамі і закускамі.

Да пачатку прыёму зартаецца хвілін дзесяць. Блукаем па фае, калідорах і пераходах. Гучаць розныя мовы, але скрозь — зразумелыя ўсмешкі, а часам і змрочныя закамянелыя пагляды. Каля люстра спыняецца тоненькая чарнявая дзяўчынка і папраўляе пышныя валасы. Я прыглядаюся да яе і, каб згладзіць сваю не зусім далікатную цікаўнасць, падаю некалькі каляровых паштовак. Не ведаючы ні слова паанглійску, мармычу нешта накшталт «Біттэ, мадмуазэль» і чырванею да вушэй.

Яна ўважліва разглядае паштоўкі, ветліва ўсміхаецца і гаворыць вельмі зразумелае:

— Балшой спасып. Какой замэчательны илюстрацый к сказкам Пафел Бажоф. Это «Хосяйка метная гора». Я ошень рат такой... как это по-руски... прэзэнт.

— О, дык вы добра гаворыце,— здзіўлена лыпаю вачыма. Хвіліну назад я быў упэўнены, што яна нічога не разумее і ледзь нешта не ляпнуў пра яе.

— Нет, я очэнь плёхо снаю руский. Основной у меня французский и немецкий, русский пеўчаю факультатыфно только третий гот. Ошень люблю читать Тольстой, Шолёхов, Достоевский, Паустовский, Твардовский.

— У арыгінале? — здзіўляюся я.

— Конешно. Только оригиналь,— і зноў залюбавалася ілюстрацыямі да казак Бажова. Да нас падышлі мае знаёмыя і папрасілі тоненькую студэнтку сесці за наш стол. Яна згадзілася быць нашай перакладчыцай з умовай, што мы будзем папраўляць яе вымаўленне.

Сталы застаўлены піроржнымі, жэле, нейкімі салодкімі прысмакамі. Не ведаем, чакаць ці можна есці. Мы ж прывыклі пачынаць з селядца або салёнага агурэчка.

Малады барадаты журналіст у выцертай аксамітнай куртцы апаражняе талерачку за талерачкай. Добраахвотная перакладчыца місіс Сэсілія заўважыла нашу нерашучасць і пачала нас частаваць фруктовым джэмам. Я гляджу ў агромністую залу: сотні і сотні мужчын і жанчын шчыльна сядзяць за сталамі, гамоняць, смяюцца, ядуць, патанаюць у воблаках цыгарэтнага дыму і здалёк здаюцца маленькімі-маленькімі. Міжвольна падумалася: «Калі ж тут накормяць такую процьму народу?»

Да нашага стала падбег чарнявы і гнуткі, як лазіна, афіцыянт.

Над галавою, як у цыркавога жанглёра, на трох пальцах круціўся вялізны паднос. Двума відэльцамі, як абцугамі, ён хапаў кавалачкі мяса і раскладаў на талеркі. На кофтачцы аднае нашай турысткі ён убачыў маленькі брэлок з дзвюма матрошкамі, падбег да яе, пачаў выгінацца і прасіць: «Сувенір! Матрушка! Матрушка!» Праз хвіліну «Матрушка» ўжо целяпалася на пінжаку ўвішнага афіцыянта. Ён назваў сябе: «Анджэло. Італьяно».

Мы пацікавіліся, як ён сюды трапіў і колькі гаспадар яму плоціць за такую віртуозную работу.

— Вы, мабыць, хочаце спытаць, колькі я плачу гаспадарам,— здзівіўся Анджэла.

Тады мы нічога не зразумелі: як гэта — працаваць і яшчэ плаціць за сваю работу? Анджэла пачаў тлумачыць:

— Я прыехаў з Неапаля вучыцца ў інстытут. Але трэба плаціць за навучанне і асобна — за здачу кожнага экзамена. Правaліўся — плаці зноў. Плаці за кніжкі ў бібліятэку, наймай прытулак. Вось і пайшоў у афіцыянты. Жыву з «чаявых». Пятнаццаць працэнтаў з іх трэба аддаваць гаспадару, што дазволіў працаваць у яго рэстаране.

Анджэла сабраў стос талерак і знік, а калі вярнуўся з чарговым падносам, мы пачалі расказваць, што ў нас студэнты вучацца за дзяржаўны кошт, атрымліваюць стыпендыю, бясплатна карыстаюцца ўсімі бібліятэкамі горада, жывуць у інтэрнатах і... правальваюцца бясплатна. Анджэла замахаў рукамі:

— Такога не можа быць. Гаварыце цішэй. Гэта ж чырвоная прапаганда,— зашаптаў ён.

Так, мабыць, і не паверыў нам.

У залу ўваходзілі гаспадары прыёма — пяць лордаў з залатымі ланцугамі на шыях. Паперадзе ішоў высокі сівы член вялікага Брытанскага савета. Усе селі за доўгі накрыты зялёным сукном стол. Пачаліся прамовы і дасціпныя тосты за мір і дружбу. Ніхто не заглядваў у паперку, кожны трымаўся натуральна і весела. Паднялася даволі поўная, ружавашчокая член парламента Ан Кер і загаварыла па-руску:

— Яшчэ ўчора ў Лондане ліў дождж і вісеў густы туман. Дзякуем, што вы прывезлі нам цяпло і сонца. Я жадаю, каб моладзь Савецкага Саюза, Англіі, Амерыкі і Кітая зразумела, што людзі жывуць для шчасця, а не для вайны. Давайце рабіць усё, каб на зямлі заўсёды быў мір. Я вельмі шкадую, што ў нас сёння няма рускай горкай, якую мы ўсе так любім, але радыя, што ёсць вы, а вас мы любім яшчэ мацней,— і падняла бакал віна.

Доўга не змаўкалі апладысменты, да яе падыходзілі з чаркамі, дзякавалі за прамову. Па зале насіліся ўвішныя італьянскія студэнты з вялізнымі падносамі, непрыкметна шнырялі ў вузкіх праходах — і праз некалькі хвілін на ўсіх сталах ужо стаялі новыя стравы.

Высокі сівы лорд даў слова мэру аднаго з раёнаў Лондана, містэру Картэле. Падняўся плячысты бялявы мужчына з залатым ланцугом на шыі.

— На вялікі жаль, я не гавару па-руску, але я не гавару і па-англійску. Я — шатландзец. Мая родная мова — мова вялікага Роберта Бёрнса. Ён нам такі ж дарагі, як вам Тарас Шаўчэнка. Вы прыплылі на цеплаходзе, які носіць яго імя. Вялікі Тарас прыйшоў у госці да вялікага Бёрнса...

Далей я ўжо нічога не чуў. У мяне ў кішэні ляжаў томік вершаў славутага шатландца на беларускай мове. Перад ад'ездам я зайшоў да перакладчыка гэтай кніжкі і папрасіў зрабіць аўтограф. Ён напісаў па-англійску: «Майму незнаёмаму англійскаму другу ад перакладчыка на беларускую мову несмяротных твораў вялікага Бёрнса. З павагаю Язэп Семянсон».

Зручнейшага выпадку для такога сувеніра быць не магло. Я папрасіў Сэсілію, і мы разам падышлі да лорда Картэле. Як толькі ён скончыў прамову, я падаў яму кніжку. Ён хуценька разгарнуў яе, убачыў партрэт любімага паэта, узрадаваўся, як малое дзіця, а калі прачытаў надпіс, моцна абняў мяне і доўга трос руку.

— Я маю выданні Бёрнса на ўсіх мовах свету. Не было толькі беларускага. Гэта самы дарагі для мяне падарунак. Вельмі вас прашу прачытаць хоць адзін верш. Як ён гучыць на вашай мове?

Я разгарнуў кніжачку ў чырвонай вокладцы і прачытаў першае, што трапіла на вочы:

Мой слаўны, мой шатландскі край,
Узгор'і і лагчыны,
Забудзь аб славе, забывай
Само імя — айчына.

Картэле не стрымаўся:

— О, гэта «Шатландская слава». Прабачце, чытайце, чытайце, калі ласка.

Калі прагучалі заключныя радкі:

Няхай памру я без пары,
Хай лягу ў дол забытым,—
Праклён я шлю вам, гандляры,
Што прадалі нас брытай! —

Картэле і яго жонка заапладзіравалі вялікаму шатландцу і яго беларускаму перакладчыку. Малінавы томік пераходзіў з рук у рукі.

На эстрадзе дрыгалі і завывалі барадатыя нячэсаныя бітлзы. Бубны і электрагітары білі ў самае цемя, але не маглі заглушыць у сэрцы радкоў вялікага шатландскага аратара і паэта.

Мы выйшлі на пустую, ледзь асветленую жоўтымі ліхтарамі Сіці. Над Лонданам было зорнае неба. Зноў успомніліся радкі Бёрнса:

Хто б верыў, што надыдзе час
І вольны край загіне,
Што здрада чорная ўсіх нас
За грошы ў яму кіне.

У Сіці яны гучалі асабліва выразна, прароча і сурова.

## «ШТРАФ»

Раніцаю ад'язджаем у Рым. Толькі на світанні спадае гарачыня. Неапалітанская затока ружавее ў празрыстым тумане, а далёкія ветразі, мачты, шпілі касцёлаў, белыя домікі на зялёных узгорках здаюцца залаціста-ружовымі міражамі.

Неапаль толькі прачынаецца. Вуліцы яшчэ пустыя, вільготныя і цемнаватыя. Над імі звісаюць мокрыя, цыраваныя і латаныя прасцірадлы, кашулі, начныя сарочкі, пялёнкі, ліфчыкі і штонікі. Адным словам, усё, што паспелі памыць учора звечара.

Наш аўтобус нырае пад гэтыя вулічныя ветразі, праскаквае нейкія вузенькія завулачкі, каб меней стаяць каля светафораў, і мы ўжо мінаем аблезлыя домікі з дзіравымі дахамі, зарослыя палыном парканы на брудных ускраінных вуліцах. Толькі на світанні так хутка можна выскачыць на шырачэзную аўтастраду Сонца. Так яна завецца, і сапраўды — прамая і роўная, як сонечны прамень.

Наш прыгожы чарнявы Віторыо выціскае з аўтобуса ўсе духі, здаецца, ён зараз адарвецца ад асфальту і паляціць над шашою. Справа павольна адплывае лагодны, зарослы густым хмызам Везувій. Нават цяжка паверыць, што некалі ён пахаваў пад дзесяціметровым пластам лавы і попелу старажытную Пампею, што больш за дзве тысячы чалавек спапялела ў вулканічным віры. Везувій у любую хвіліну можа ўгнявацца і цяпер. Таму, мабыць, каля яго хочацца цішэй ісці, ехаць і нават гаварыць. Ён знік у блакітнай смузе, а насустрач ляціць, ільсніцца залітая сонцам аўтастрада. Мільгаюць запраўачныя станцыі з маленькімі рэстаранчыкамі, рамонтнымі майстэрнямі, кветнікамі, з аранжавымі шыльдамі «ESSO». Імчыцца дарога, кругамі адплываюць густыя таполевыя прысады, парнікі пад цэлафанаваю плёнкаю, палі, дагледжаныя лепш за самыя ўзорныя градкі, а пры дарозе — высокія чырвоныя макі.

Віторыо паціху, але натхнёна спявае працяжныя песні неапалітанскіх рыбакоў. У іх — туга па доме, па каханых і блізкіх, а на беразе рыбак сумуе па блакітных прасторах, салёных штормах і тугіх ветразях. Высокі худы літоўскі аператар непрыкметна прасоўвае ў шафёрскую кабіну мікрафон. Віторыо пачуў свой узмоцнены дынамікам голас, збянтэжыўся і змоўк. Мы дружна яму апладзіруем і просім спяваць яшчэ. Ён толькі круціць галавой і прыбаўляе газу.

— Як у горкаўскім «Па дне»,— сумна жартуе мой дасціпны сусед,— эх, таварыш аператар, сапсаваў песню...

Разам з усімі смяецца і аператар:

— Шкада харошай песні, але затое хутчэй будзем у Рыме.

Там нас сапраўды чакае нялёгкі дзень. Турысту хочацца як мага больш пабачыць, калі не ўсё агледзець, дык хоць сфатаграфавацца ў выдатных мясцінах, каб можна было сказаць: «Быў», «Бачыў», «Вось дакумент». А кампанія па турызме стараецца хутчэй прагнаць нашага брата праз усе форумы, Калізеі, пантэоны, старажытныя і сучасныя палацы і музеі. Турысцкі марафон ніколі не спыняецца — адны наступаюць на пяты другім. Таму і гоніць Віторыо жоўта-чырвоны аўтобус, каб паспець, каб не выбіцца з графіка.

За вокнамі, як разведзены цукар, дрыжаць і павольна плывуць пасмы гарачага паветра. Зноў абапал дарогі мільгаюць высокія макі і

буйныя рамонкі. Краявіды нагадваюць нашы крымскія прасторы, толькі паветра сушэйшае і гарачэйшае.

Выскачылі на ўзлобак дарогі, і за сіняватаю смугою паказаліся, нібы рубам пастаўленыя цагліны, дамы новых мікрараёнаў. Здалёк яны нагадваюць ваколіцы нашых гарадоў, што абрастаюць дамамі-блізнятамі, вышэйшымі ці ніжэйшымі, з балконамі або з лоджыямі, аднолькавымі сваёй аднастайнасцю.

Няўжо гэта Рым? Ён насоўваецца на нас сучаснымі ўскраінамі, а далей блішчаць стромкія і круглыя, як шаломы, пазалочаныя купалы сабораў і касцёлаў. За вокнамі мільгаюць вітрыны, газоны, прысады з каштанаў і піній. Вось і шчарбатыя муры гарадской сцяны часоў Нерона, за ёю — старажытны Рым. Нашы галовы, як на шарнірах, ледзь паспяваюць паварочвацца злева направа. Сёння мы пабачым Калізей і форумы, Пантэон і Ватыканскі музей, а цяпер едзем да помніка Гарыбальдзі.

Машыны імчацца адна каля аднае, здаецца, чыркае кузаў аб кузаў. Віторыо вядзе аўтобус без напружання, плаўна тармозіць і адразу зрываецца з месца.

Насустрач віляе нізенькая машынка з вялізнымі, як званы, дынамікамі на даху, на ёй — чырвоны транспарант «Woto Kommunisto!». У Італіі пачалася перадвыбарчая кампанія ў муніцыпалітэт. Віторыо прывітальна махае маленькай агітацыйнай машыне.

— Віторыо, а за якую партыю будзеце галасаваць вы? — пытаюся ў шафёра.

— За самую справядлівую.

— Якая ж гэта партыя?

— Толькі адна, — і памаўчаўшы, — партыя Тальяці.

— А вы камуніст?

Віторыо маўчыць, увагнуў галаву, напружана ўглядаецца ў дарогу, потым нібы апраўдваецца:

— Мой дзед і бацька былі камуністамі. Значыць, і я камуніст, хоць яшчэ і не маю білета.

— Зірніце направа,— перапыняе нашу размову экскурсавод,— гэта сцены Ватыкана, а вунь і сабор святога Пятра.

За сценамі з шэрай цэглы відаць верхавіны дрэў, тэлевізійная вышка, купалы і дахі дамоў, з варот выходзяць маладыя манашкі і манахі ў чорных сутанах, падпяразаных шырокімі раменнымі папругамі. Глядзіш — і не верыцца, што трапіў у другі свет, што ўсё гэта сапраўднае.

Наш аўтобус павольна ўзбіраецца на круты ўзгорак Плацо дэла Равэра. Раптам нешта шарганула з левага боку машыны. Віторыо

крута павярнуў управа, спыніўся каля тратуара, выскачыў і пабег назад. Напэўна, ушчуваць парушальніка, вырашылі мы.

Непадалёк спынілася і тая маленькая нязграбная машынка. Каля яе стаялі гаспадар і даўжэзны паліцэйскі ў чорным суконным мундзіры і тугім стаўбунаватым шлеме. Як толькі Віторыю падбег да іх, гаспадар нязграбнай бляшанай казяўкі з кулакамі наскочыў на яго. Паміж імі стаў паліцэйскі, казырнуў аднаму і другому і адвёў да парэнчаў моста. Абодва, як пеўні крыламі, замахалі рукамі.

У аўтобусе не было чым дыхаць, і мы ўсе выскачылі на тратуар. Дасведчаныя аўтамабілісты агледзелі наш аўтобус:

— Глупства. Драпіна на фарбе, і спыняцца не варта было.

— Гэта ж той прыватнік выскачыў на наш бок.

— Паглядзіце, ён яшчэ кідаецца з кулакамі на Віторыю.

Шафёры крычалі і махалі рукамі, як толькі ўмеюць экспансіўныя італьянцы. Паліцэйскі стаіць збоку і толькі слухае іх спрэчку, а яна ўсё разгараецца і зацягваецца. Самае дзіўнае, што насядае прыватнік на нашага шафёра.

Ад спёкі растае асфальт, і мы хаваемся пад густымі парасонамі піній. Экскурсавод ледзь не плача: група позніцца, графік і ўсе планы зрываюцца. А спрэчцы шафёраў не відаць канца — махаюць рукамі і крычаць усё галасней і галасней. Колькі яны будуць сварыцца і колькі яшчэ прастаім, ніхто не мог сказаць.

— Што рабіць? Што рабіць?! — даходзілі да адчаю экскурсавод і кіраўнік групы.

Раптам, нічога не гаворачы, размахваючы сумачкай, да крыкуноў пайшла Людміла Аляксееўна. Мы ведалі, што яна працуе ўрачом у Слуцку, што многія стараліся ў аўтобусе сесці каля яе, скандынавы і англічане заўсёды азіраліся на Людмілу Аляксееўну, французы ўсміхаліся і ішлі за ёю некалькі кварталаў, а пра італьянцаў і казаць няма чаго.

— Паліцэйскі не дасць ім рады, а Людміла Аляксееўна зараз развядзе гэтых пеўняў,— суцяшаў кандыдат эканамічных навук.

— Толькі такую жанчыну адну пускаць рызыкоўна, асабліва ў Італіі,— жартаваў літоўскі аператар.

Кіраўнік групы папраўдзе занепакоіўся:

— Хто ёй дазволіў адлучацца?! — і ён, маленькі, тоўсценькі, выціраючы змакрэлую шыю, хуценька падрыпаў кароценькімі ножкамі.

— Бачыце, які ён клапатлівы,— захаплялася жанчына ў тонкіх акулярах і нешта запісвала ў тоўсты разбрынялы блакнот.

— Думаеце, вельмі за Людмілу Аляксееўну непакоіцца? Больш пра сябе думае,— і апаратар крыкнуў наўздагон: «Хутчэй, Анатоль Пятровіч!»

Той ірвануўся, прабег некалькі крокаў і раптам запаволіў хаду. Гаспадар маленькай машыны далікатна кланяўся Людміле Аляксееўне і ўвесь свяціўся белазубаю ўсмешкаю. Смяяўся і паліцэйскі, узяўшыся ў бокі, залівауся рогатам і наш Віторыо. Не верылася, што хвіліну назад яны ледзь-ледзь не кідаліся адзін на аднаго з кулакамі. У цэнтры стаяла слуцкая дакторка, да яе нахілілася трое мужчын, нешта разглядалі і смяяліся. Анатоль Пятровіч спыніўся за некалькі крокаў ад іх. Раптам «пакрыўджаны» ўласнік моцна абняў Віторыо, пакланіўся Людміле Аляксееўне, ужо з машыны памахаў усім рукою і адразу знік у патоку машын. Да аўтобуса подбежкам спяшаліся шафёр і наша прыгожая дакторка.

Віторыо зірнуў на пісяг на машыне, махнуў рукою і скочыў у кабіну. Мы апанавалі Людмілу Аляксееўну пытаннямі, што яна такое сказала, што «ворагі» адразу сталі сябрамі, нават абдымацца пачалі.

— З усяго, што я сказала, ён зразумеў толькі адно слова — сувенір. А калі падала матрошку, паглядзелі б, што рабілася: дастаў самую маленькую, рагатаў, не раўнуючы, як малое дзіця. Паліцэйскі аж заходзіўся ад смеху.

— Цяпер усе штрафы будзем плаціць матрошкамі,— пажартаваў гід,— Віторыо, хутчэй на плошчу Гарыбальдзі!

Аўтобус імчаўся ў шырокай плыні мітуслівых і стракатых машын, сонца смаліла так, што да скураных сядзенняў нельга было дакрануцца.

Чатырыста рымскіх касцёлаў звanілі на імшу.

## ПЕСНЯ

Прыгожая, крышку падобная на цыганку жанчына лёгка ўскочыла ў аўтобус, маленькаю моцнаю рукою сціснула мікрафон:

— Уфажаемых сафетскіх туристоф приветствую на древняя зэмля Элада. Я называюсь Роза Карвэли, наша шафёра — господин Спирос. Ми с вами в порт Пирэй...— і сыпанула цэлую старонку фактаў з турысцкага даведніка.

— Хвіліначку, хвіліначку,— перабівае яе кабета ў тонкіх «інтэлектуальных» акулярах без аправы.— Як называецца чацвёртая гара, Л-і-гіён ці Л-е-егіён?

Роза ўсміхаецца чорнымі іскрыстымі вачыма і паўтарае, нібы дыктант:

— Імітос, Пендэлікон, Парнітос, Э-г-а-ле-он.

Жанчына ў акулярах старанна запісвае слова ў слова. Яна ўжо нічога не бачыць, ні на што не звяртае ўвагі — піша і піша, небарака. А мы глядзім на вузкія вулачкі Пірэя, на прадаўцоў кавы, на прыгожых афінянак і статных грэкаў.

— Алена Кірылаўна, зірніце, зірніце, які...— штурхае Людміла Аляксееўна жанчыну з блакнотам і паказвае нешта за акном.

— Адчапіцеся! — агрызнулася жанчына ў акулярах,— вам глупства на ўме, а мне прыйдзецца з лекцыямі выступаць.

Да яе нахіляецца мой сусед, кандыдат эканамічных навук, і шэпча:

— Схавайце блакнот, а дома адгорнеце «Малую Савецкую Энцыклапедыю» том першы, на А, здаецца, старонка 667.

Алена Кірылаўна бліснула «інтэлектуальнымі» акулярамі, але адразу не здалася: нешта яшчэ пісала, але, відаць, толькі для прыклёпу, каб паказаць цвёрдасць характару і толькі ёй адной вядомую мэту такой стараннасці.

Але Афіны ёсць Афіны. Адны хочуць адразу ж пабачыць Алімпійскі стадыён, другія — помнік Байраку, хтосьці дапытваецца, дзе храм Гефеста, нехта прапануе хутчэй ехаць на Акропаль.

Прыгожая Роза ветліва ўсім усміхаецца, абяцае ўсё паказаць, а маўклівы Спірас тым часам дакладна па раскладзе вязе ў старажытны Карынф.

...Пясчаныя палі выпетралі на сонцы да хрусту. Паміж прыдарожных каменняў цвітуць агавы і макі, ружавеюць кусты алеандраў, цягнуцца вузкія палоскі парудзелых вінаграднікаў. Адзінокія жанчыны жнуць сярпамі. Не верыцца, што жнуць у маі. Аўсы пабялелі і выпрасталіся. Прамільгнулі нязжаты загончык, колкі ўзмежак, самотны каршун у сінім, без адзінай хмурынкі небе. Бо калі ў вышыні праплыве невялічкае воблачка, грэкі ўжо скардзяцца, што псуецца пагода.

Неба яснае. Сухі гарачы вецер нясе жоўты пыл і апальвае шчокі. Прывяла і маўчыць наша гаваркая Роза. Усе размяклі і прыціхлі ад спёкі і аднастайнасці пейзажу.

— А вы ўсё ж не грачанка,— толькі каб не маўчаць, звяртаецца да Розы мой сусед.

— Да-а-а. Я сама ис Югославия. Любляна мой город. После я училась консерватория. Но этот горьячий грек Корвели похитил и привёз меня с'юда,— весела смяецца Роза.

Спадзеючыся пачуць рамантычную гісторыю, прахапіліся ўсе сонныя, Алена Кірылаўна выхапіла свой тоўсты блакнот. Яна

замучвала гідаў пытаннямі: калі пабудаваны Пантэон, колькі зарабляе шафёр, запісвала цэны на масла і камбінацыі. Вось аб'ехала Еўропу, але апрача свайго блакнота нічога не бачыла: яна ў музеях, на хаду і ў аўтобусах запісвала даты нараджэння каралёў і славутых мастакоў, прозвішчы архітэктараў, памеры Віндзорскіх паркаў і шырыню парыжскіх мастоў.

Роза ўхілялася ад рамантычнай споведзі і, каб перавесці гаворку, спытала:

— А ви, конешна, все из Москва?

— Не,— адказаў мой сусед,— масквічы ў другой групе. А мы хто адкуль. Я, напрыклад, з Беларусі.

— Ви из Белорусия? — здзівілася Роза.

— Ага. Можа вам даводзілася бываць у нас?

— Нет, к сожалению, нет. Но ми знаем: это многострадальный и героический нарот. Ми преклоняемся перед вашим... как ето... мужеством.— Роза склала вузкія далоні, як на малітву, і пакланілася майму суседу.— Ми в Юлийские Альпы учились у белоруских партизанов делать, как его, «к-он-церт», рельсофая война. Спасыбо вам.— Роза моцна пацiснула руку майму суседу.

— Я тут не адзін,— засаромеўся ён,— вунь колькі нас, беларусаў.

Кожнаму хацелася падарыць нешта лепшае былой югаслаўскай партызанцы. Я перавярнуў кішэні, але, апрача адзінай паштоўкі, нічога не знайшоў. Хоць было і няёмка, я падаў яе Розе. Лепш штонебудзь, чым нічога. На паштоўцы былі намаляваны партызаны ў разведцы, а побач надрукавана песня. Роза ўчыталася ў ноты і пачала ледзь чутна мармытаць знаёмую мелодыю.

— Ви знаете ета песня? — спытала яна.

— Яе ў нас спяваюць усе і заўсёды.

Роза ўзяла паштоўку ў левую руку, а правую падняла, як дырыжор, і запела:

Ой, бярозы ды сосны,—
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады,—

падхапіла наша беларуская група.

Песня загучала суладна і звонка. На другой страфе далучыліся мурманчане, літоўцы і латышы. Яны падхоплівалі прыпеў і паўторы кожнай страфы. Роза размахвала паштоўкай і спявала ў мікрафон. У яе вуснах міла гучалі беларускія словы са змененымі націскамі, але яна спрабавала папраўіцца і трапіць нам у тон.

Праз адчыненыя вокны аўтобуса наша песня плыла над збялелымі палямі Грэцыі, над вінаграднікамі, над чырванню прыдарожных макаў.

Калі даспявалі, Роза прыціснула паштоўку да грудзей.

— Это самый дорогой сувенир. Большой спасыбо...— і зусім ціха,— т-о-фа-рышы... А тэпер посмотрите налево. Здэсь, по преданию, встретились Езус Христос с пророком Петром...

Алена Кірылаўна зноў выхапіла свой разбрынялы блакнот. Па небе паплылі лёгкія хмурынкі: у Грэцыі псавалася надвор'е. А Роза ціха напявала «Лясную песню».

## НАСТАЛЬГІЯ

З усіх гідаў толькі адзін называў нас «таварышы». Маленькі, усохлы з постаці і твару, з густа прысоленым сівізною вожыкам валасоў, ён быў непрыкметны сваёй шэрай будзённасцю. Толькі вялікія чорныя вочы праз шкельцы акуляраў прагна ўглядаліся ў кожнага і, здавалася, бачылі ўсё навылёт.

Гаварыў ён амаль без акцэнту, але трошачкі шапялявіў:

— Прашу прабачэння за дыкцыю. Два тыдні назад трапіў у аварыю, усё абышлося добра, толькі разам з люлькаю выскачылі зубы. Вось свішчу і накульгваю трохі. Трэба было яшчэ паляжаць, але хіба ўлежыш, калі прыязджаюць землякі?.. Будзем знаёмы: Сяргей Пятровіч Варэжнікаў,— паціскаючы кожнаму руку, ён часам перапытваў імя або па бацьку. Ужо ў аўтобусе ён беспамылкова называў кожнага з трыццаці васьмі турыстаў і да канца падарожжа ні разу не памыліўся.

Гаварыў Сяргей Пятровіч ад Гаўра да самага Парыжа. Відаць, згаладалы па роднай мове, ён ніяк не мог нагаварыцца. Часамі зацягвалася паўза: Сяргей Пятровіч пакутліва падбіраў патрэбнае слова, а яно выскачыла, рассыпалася, знікла. Круціцца нейкае сугучча, але ж не яно, не тое, што трэба. Праз некалькі дзён ён ужо гаварыў без запінкі.

— Надыхаўся роднага свежага паветра, акрыяў і памаладзеў,— прызнаваўся наш гаваркі гід. Кожнаму карцела дазнацца, калі і як ён трапіў сюды, але было няёмка вярэдзіць даўнія раны ў душы гэтага сімпатычнага чалавека. Так і маўчалі. Не ўтрымалася толькі Алена Кірылаўна і ні з таго ні з сяго бухнула:

— А чаго вас занесла сюды?

У Сяргея Пятровіча аж вочы пачырванелі, ён часта заморгаў, нешта замармытаў, а калі прайшло хваляванне, ціха сказаў:

— Усё гэта не так проста, таварышы... Сюды мяне прывезлі, калі мне было дванаццаць гадоў. Тут вучыўся, стаў інжынерам-будаўніком, мужам і бацькам.

У вайну як мог змагаўся з фашызмам. Як бачыце, пасівеў і пастарэў тут. А ўсё роўна — прахаплюся ноччу, і здаецца, трапіў у нейкую незнаёмую гасцініцу, а дом недзе там, на Астожанцы. Маскву ўяўляю толькі дваццатых гадоў: трамваі «аннушка» і «букашка», бярозавыя гаі ў Сакольніках.

Таму, як толькі прапанавалі суправаджаць вас, плюнуў на кульгавую нагу, на памятыя рэбры і паехаў, каб хоць трохі адвесці душу, пабыць сярод сваіх. Хоць я не прафесійны гід, але Парыж ведаю так, каб паказаць вам самае цікавае.

З Сяргеем Пятровічам у нас адразу ўстанавіўся кантакт і ўзаемная павага. Хоць і кульгаў і крывіўся часам ад болю, але першы ўзбягаў на плошчу Тракадэра, бег па ўсходках Трыумфальнай аркі, звыш праграмы вадзіў па начным Парыжы, дамогся, каб у выхадны дзень пусцілі нас у музей Радэна, знаёміў з букіністамі на ўзбярэжжы Сены. І развітваўся ён з намі дзе-небудзь у раёне бульвара Сен-Жэрмен або каля моста Святога Цвіка, калі Парыж патанаў у ліловым змроку майскай ночы. А раніцаю, пасвяжэлы і адпрасаваны, ужо чакаў у вестыбюлі гасцініцы.

У апошні дзень мы гасцявалі ў камуністаў парыжскага прыгарада Вілетаноус. Рабочыя прадмесці французскай сталіцы звычайна называюць чырвоным поясам Парыжа. У іх мэрыі ўзначальваюць камуністы, а працуюць яны так, каб на наступных выбарах перавагу аддалі іх партыі.

Уладу ў Вілетаноусе ўзначальваюць камуністы ўжо дваццаць тры гады. Яны будуюць рабочым дамы, школы, дзіцячыя сады і яслі. А дзе бяруць грошы? Як толькі могуць, вырываюць у гаспадароў заводаў і заводзікаў, у розных кампаній, дзе працуюць рабочыя іх гарадка.

Мэр гарадка — дробненькая, зграбная і вельмі рухавая П'ерэль Пецíто. Мы з ёю агледзелі выстаўку работ самадзейных мастакоў у клубе мэрыі, ад кацельнай да даху аблазілі некалькі новых дамоў, толькі што пабудаваных мэрыяй, абышлі дзесятак кватэр рабочых. Калі змарыліся шнураваць па лесвіцах, таварыш Пеціто ўпрасіла зайсці яшчэ хоць у дзве кватэры, каб не пакрыўдзіліся гаспадыні, што да іх не зайшлі савецкія таварышы. Прыйшлося пайсці. Ні на хвіліну ад нас не адставаў і Сяргей Пятровіч.

На змярканні нас паехалі праводзіць мадам Пеціто, тры пажылыя работніцы і два па-святочнаму апранутыя гарбары з абветранымі і загрубелымі рукамі. Мы ехалі амаль па пустой шашы. Там-сям каля

самых кюветаў стаялі пакінутыя аўтафургоны, грузавікі, рэфрыжэратары, пікапы і дарожныя машыны. На кожным кузаве бялеў папяровы квадрацік з надпісам «17 МАІ».

— Што гэта такое? Чаму кінуты машыны? — пацікавіліся мы.

— Паўгадзіны назад па ўсёй Францыі пачалася ўсеагульная забастоўка,— растлумачыў Сяргей Пятровіч.

Мы занепакоіліся: няўжо наш Ралан забастуе дзе-небудзь у полі, і нам прыйдзецца «загараць» да канца забастоўкі? Мадам Пеціто заўважыла наш неспакой, нешта сказала Сяргею Пятровічу. Той адразу супакоіў нас, што пагрузка і разгрузка савецкіх суднаў, абслугоўванне савецкіх грамадзян не лічыцца штрэйкбрэхерствам.

— Вось прыедзем у Гаўр і тады забастуем,— ён нешта сказаў Ралану, той азірнуўся і памахаў нам рукою.

Спыніліся ў маленькім, слаба асветленым гарадку недзе паміж Парыжам і Руанам. Вясна пахла цёплым дажджом і язмінам. На мокрым асфальце гойдаліся і расплываліся адбіткі неонавых рэклам. Агні расфарбавалі лужыны ў самыя яскравыя колеры, а вуліцы былі ледзь асветленыя і пустыя.

Мадам Пеціто і яе сябры запрасілі нас на вячэру ў рэстаран з вялікім рэкламным пеўнем. «Пеўнем» ён і завецца. Над дзвярыма бомкае званочак, як бомкаў у часы Бальзака, некалькі прыступак вядуць уніз, у даволі прасторную і ўтульную залу. Па белым абрусе доўгага стала з канца ў канец працягнулася дарожка з чырвоных ружаў і гваздзікаў. Такая нечаканасць кранула нас. Так гаспадар рэстаранчыка віншаваў сваіх гасцей — камуністаў. Абслугоўвала нас немаладая стомленая жонка гаспадара, часам і ён памагаў разліваць сухое віно, разносіў бананы і Мідыі ў вялікіх ракавінах замест талерак, раскладаў бутэрброды і салат і зноў станавіўся за сваю стойку.

У французаў не прынята гаварыць тосты, а на гэтай вячэры наш гід ледзве паспяваў перакладаць усё, што гаварылі мы і французы. Гаварылі шчыра і ўсхвалявана, часам са слязой і вялікай узрушанасцю. Пад апладысменты нехта з нашых мужчын ставіць на стол пляшку «Сталічнай». Частуем толькі французаў. Гаспадар цмокае і ад задавальнення заплюшчвае вочы, дае пакаштаваць жонцы і нават некалькі кропель маленькай чарнявай дачушцы. Прыклаўся да «маскоўскага напітку» і шафёр. Мы спалохаліся, што не даедзем у час, што можа затрымаць паліцыя. Супакоіў Сяргей Пятровіч:

— Французы п'юць віны з дзяцінства і кожны дзень, а пасля «Сталічнай» аўтобус пабяжыць яшчэ хутчэй. От пабачыце. Дарога вольная: Францыя бастуе.

На разыходзіны мы заспявалі «Бывайце здаровы». Спявалі хто на якой мове ведаў, патрапляючы ў мелодыю, імправізуючы нешта сваё, падцягвалі і французы. Гаспадар, стоячы за буфетам, спрабаваў дырыжыраваць.

Развіталіся горача і шчыра. Запісвалі адрасы (але так, вядома, ніхто нікому і не напісаў), абдымалі шыракаплечых гарбароў, цалавалі шурпатыя рукі пасівелых работніц. Яны вярталіся дамоў, а нам трэба было спяшацца на цеплаход. Ён быў нашым гасцінным, утульным і вельмі сваім домам. Аўтобус сапраўды ішоў весялей і жвавей: Ралан неяк бесклапотна круціў баранку і напяваў эстрадныя песенькі. За акном была цёмная вільготная ноч. Сяргей Пятровіч сядзеў наперадзе, згорблены, прыцішаны і сумны. Потым павярнуўся і папрасіў:

— Давайце паспяваем на развітанне.

Усе заварушыліся. «Кацюшу», «Прощай, любимый город» — падзяліліся жаданні і густы.

— А «Картошку» вы ведаеце? — спытаў Сяргей Пятровіч і ціха, трошкі шапялявячы, заспяваў. Мы падхапілі даўнюю піянерскую песню. Успомніліся колішнія паходы, вогнішчы над туманнаю рэчкаю, сябры тае далёкай пары. А што яна напомніла Сяргею Пятровічу, пра што ён думае цяпер?

Калі пераспявалі ледзь не ўсе папулярныя песні, пачалі інтэрнацыянальны канцэрт: літоўцы зацягнулі сваю меладычную дайну, неўзабаве ім падпяваў увесь аўтобус, гучала наша «А ў полі вярба». Песня змяняла песню.

Рэдкія сустрэчныя машыны сляпілі вочы і на хвіліну асвятлялі твары суседзяў. Сяргей Пятровіч сядзеў моўчкі, толькі паблісквалі акуляры і часам мільгаў профіль яго сухога твару.

Нібы вялізнае вогнішча, праплыў у тумане заліты агнямі Руан. Нехта спытаў, ці ёсць тут помнік Жанне д'Арк. Заўсёды чуйны да кожнага пытання Сяргей Пятровіч маўчаў. Я нахіліўся да яго. Вочы былі заплюшчаны, тонкія жылаватыя рукі абхапілі вострае калена, а па глыбокіх маршчынах на твары цяклі слёзы, ён іх толькі расцёр і павярнуўся да мяне.

— Прабачце, не вытрываў. Так заўсёды, як пачую нават самую вясёлую нашу песню,— ён падкрэсліў нашу і, памаўчаўшы, дадаў: — Каб вы толькі ведалі, як мне пуста і адзінока ў гэтым вялізным горадзе. Як у лесе. Адзін, зусім адзін. А ўспомню радзіму, уся душа баліць, крычаць хочацца. Чым далей, тым вастрэй боль. Мабыць, настальгія...

— А вы б вярнуліся...— асцярожна параіў я.

— Рад бы... Бачыце, жонка ў мяне дванаццаты год паралізаваная. Куды мне з ёю? Радні не засталося...— Памаўчаў.— А паміраць усё ж прыеду дадому.

— Што вы, Сяргей Пятровіч, не паміраць, жыць прыязджайце. Вы ж ведаеце, як у нас цяпер.

— Калі вы на дарозе дзе-небудзь убачыце маленькага сівога чалавека з чамаданчыкам, на ўсякі выпадак прыпыніцеся, магчыма, гэта буду я. Можа і дапамога ваша спатрэбіцца.— Ён горка ўсміхнуўся.— Прыеду, абавязкова прыеду, і назаўсёды.

У Гаўры на прычале ўжо ішла пагрузка. Каля трапа, залітага ўрачыстай ілюмінацыяй нашага цеплахода, станавіліся ў чаргу турысты. У цёмным небе трапятаў ярка-чырвоны сцяг.

— Чаму так рана адплываем? — здзівіліся мы.

— Здымаемся на дзве гадзіны раней,— растлумачыў адзін з нашых матросаў,— французскі лоцман павінен баставаць. Таму і спяшаемся.

На развітанне мы абняліся з Сяргеем Пятровічам, і я завязаў яму свой, слуцкай работы, гальштук.

— Прабачце, што нічога вартага няма пад рукамі,— ён мне даў карту Нармандыі з адзначаным нашым маршрутам і маленькую лістоўку з надпісам «17 MAI». Такі лісток Ралан ужо наляпіў на кузаў свайго аўтобуса.

Калі адшвартаваліся, мы яшчэ доўга глядзелі на апусцелы прычал. На ім стаяў адзіны маленькі чалавек з паднятаю рукою.

# РУДАБЕЛЬСКАЯ РЭСПУБЛІКА

***Дакументальная аповесць***

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

1

За вокнамі — чорная волкая ноч: ні агеньчыка, ні znічкі.

Вагон гайдаўся і тузаўся на стыках. Цягнік ледзьве поўз у цемрадзь. Можна заскочыць да стрэлачніка, напіцца вады і зноў вярнуцца на сваё месца.

Як ішоў той цягнік, чым дыхаў — ніхто не ведаў, але ішоў, часам спыняўся, пыхкаў, лапатаў параю і ўсё ж поўз, марудна, няўпэўнена, вобмацкам, як сляпы. У закураных ліхтарах моргалі і дагаралі свечкі. Ніхто ў цягніку не спаў. Нават тых, каму ўдалося ўшчаміцца на верхнія паліцы, не браў сон. Хто цяжка ўздыхаў, а хто разважаў уголас:

— От бальшавікі кажуць: зямля — мужыку, фабрыкі — масцеравым. Так то яно так. А як узяць тую зямельку, калі яна панская. Заарэш, толькі сілу стопчаш ды насенне перавядзеш.

— Насенне ўзыдзе, а каму жаць прыйдзецца? От ты мне скажы. А як урэжуць па азадку дваццаць пяць шампалоў, як некалі ў пана Іваненкі.

— Э-э, калі тое было! Тады ж слабоду па царскім маніхвесце давалі, ды з рук не пускалі. Памятаеш — паткнуліся абрэзаць панскія валокі, а казакі па сцягняках як урэзалі, дык аж цяпер свярбяць. А гэтая слабела напраўдзешная, без цара і без пана. Ты б толькі бачыў: у Бабруйску на Казначэйскай падыходзіць дзяцюк да гарадавога, ды як суне кулаком у храпу, той юшкаю і заліўся. Лахі пад пахі ды драла.

— Як бы там пакуль што ні круцілася, а зямля цяперака наша,— стаяў на сваім малады салдат з пшанічнымі вусамі і з перавязанаю брудным бінтам рукою.

— Наша то наша, але ці будзе з яе каша? От вапрос! — сумняваўся сухенькі дзядок з рэдзенькаю барадкаю, колкімі брывамі і з маленькім, як печаны яблык, тварам. На старым выцертая рудая світа, на тоўста накручаных анучах ледзьве ліпелі лапці. У зубах храпла і свістала маленькая счарнелая люлечка. Не, дзядок не спрачаўся, а толькі ўголас гаварыў пра свае сумненні.

Гаманіў увесь вагон. У дыме ад самакрутак знікалі твары, расплываліся калматыя цені ў авечых шапках, кажухах і світах.

Да гаворкі старога з салдатам прыслухоўваўся чалавек у шынялі, у салдацкіх чаравіках з абмоткамі, у шапцы без какарды. Ён сядзеў у кутку, трымаючы паміж каленяў вінтоўку, пад лаўкаю ляжаў яго зацухмолены салдацкі мяшэчак. Ён здагадваўся, што стары і салдат з іхняй воласці, бо ведаюць пра пана Іваненку і пра тое, як мужыкі ў дзевяцьсот пятым годзе дзялілі панскую зямлю, помняць і казацкія бізуны. Але ні таго ні другога ў змроку пазнаць не мог.

— Дый ці доўга ўседзіць гэтая ўлась? — не сунімаўся дзед.— Дом Раманавых тры вякі стаяў, а Керанскі ледзь паўгода праліпеў. Кажуць, у спадніцы драла даў.

Чалавек у шынялі высунуўся на праход, прыгледзеўся да старога:

— Ці не з Карпілаўкі, дзед, будзе?

— А ты чый жа такі ўгадчык? Пачакай, лічнасць недзе бачыў,— дзядок падаўся наперад.— Эге, ці не Раманаў сынок сыскаўся? Толькі каторы?

— Глядзі ты, пазнаў. Ляксандра я, самы большы.

— Я і то думаю, ці не Салаўёў часам Латышок... У водведкі? А мо, дасць бог, насаўсім?

— Наваяваўся за сябе і за ўнукаў, калі дачакаю. Хопіць!.. Сыты па самую макаўку. Пара за зямлю брацца. А яна, дзед, нашая, і не сумнявайся. Крывёю заплацілі за кожны аршын, а купчую сам Ленін падпісаў.

— Ці не кантужаны ты, што ні мяне, ні старога адразу не пазнаў? — усміхнуўся салдат з перавязанаю рукою.

— Ну канечне, Анупрэй! — ляпнуў Аляксандр салдата па плячы.— Дзе ж цябе, чорта, пазнаеш: завусацеў, перапаў, толькі нос ды вусы тырчаць. Як гэта табе собіла нарвацца на дурную кулю?

— Эт, ерундовіна. Кукса гэтая ў мяне мудрэй пропуска, каму не тыцну — дарогу дае. Цяпер дадому па чыстай. Тры гады са смерцю ў жмуркі гуляў. Пара старым памагчы і самому на ногі ўзбіцца.— А я, брат, сёмы год як з дому,— памаўчаў, уздыхнуў.— Дзе цяпер той дом, сам не ведаю.

— Ха, чашы пра-а-менька ў Харомнае. Стары з Ганнаю ды Марылькаю на пачатку вайны туды перабраліся,— сказаў дзядок з рэдзенькаю бародкаю.— Яго пан з Хлебавай паляны прапёр. А колькі ён там, гарэтнік, карчоў папаварочваў, колькі карэнняў пападраў, зямлю, як пух, вырабіў, а яго каленам пад зад — і ўвесь табе лад. Дык ён у Гатальскага цяпер з траціны петуецца. З дачкою ўпрэгліся, а сыны за веру, цара і ацечаства ў акопах крываваю юшкай умываюцца.

— Цяпер і я бачу, што гэта дзядзька Цярэшка. Змарнелі ж вы нешта. Каб так дзе сустрэў, дык хоць забі не прызнаў бы.

— Дзіва што змарнеў. Не з вяселля, браце, еду. Дзесяць месяцаў вошы ў бабруйскай цюрме прудзіў. Баланды з тараном пасёрбаеш, сухара згрызеш, а дровы цэлы дзень рэж.

— За што ж гэта вас? — запытаў Аляксандр.

— Каб жа ведаў за што! Ат, за пусты мех, а ў мяху смех. Прысукаўся Урангеляў гіцаль з двара, бытта хвойку ў панскім лесе спусціў, каб з яго сукравіцу пускалі. І павалаклі Цярэшку ў казённы дом. Каб жа сядзець! Пасядзеў бы ўжо, хоць аддыхнуў бы за свой век. Дзе ты бачыў! Трасцу ўседзіш — ускочыць у камеру стражнік і давай сашкаю ад патыліцы да галёнак хвастаць. Дальбог, мужчынкі, не пры вас кажучы, шкура, як на сабаку трашчыць, хоць на бубен нацягвай. І трэба ж такое шчасце! Якраз перад тым, як Мікалашку скінуць, упяклі аж на тры гады. Тых, што процi цара гаварылі і афішкі падкідалі, павыпускалі, а мне кажуць: «Сядзі, зладзюга». От і сядзеў.

— Хто ж цябе выпусціў, дзед? — запытаў Аляксандр.

— Хто? Хто? Дай ім бог здароўечка, бальшавікі. І трэба ж якраз сну прывярзціся. Ні з таго ні з сяго гарачымі аладкамі запахла і бытта старая снедаць катурхае. Ускочыў, аж дулю пад нос — цюрма, братачка, цюрма. Ні аладак, ні бабы. Ужо і вывіднела, а пад'ёму не звоняць, пайку не даюць і на работу не гоняць. Паўставалі, у дзверы гасім — хоць бы табе жывая душа азвалася. Чуваць толькі бегае нехта па калідоры. Пагрукалі крапчэй, аж завала — бразь. Ускаквае ў камару нейкі чорненькі, от такенькі, не больш за мяне, у хромавым каптаніку і шапка ўся шкураная. Ага, дальбог, не брашу. Ускаквае і кажа, дай яму доўгі век, «Выходзьце, кажа, з вяцічамі. Слабода, кажа, таварышы. Новы пераварот у Піцеры. Самы глаўны бальшавік, бытта, бумагу выпусціў, што слабода ўсім. І яшчэ, праўда ці не, але казаў, што зямля — мужыку без усялякага там выкупу, а хвабрыкі — масцеравым за так аддадуць. Ета, казаў, Савецкая ўдасць завецца. А цэрквы і цюрмы, кажа, трэба зраўняць з зямлёю. Ну, цюрмы я сам бы ўсе папаліў, а што ім цэрквы зашкодзілі? Без бога, як той казаў, ні да парога. Без веры чалавек, як гавяда бязрогая.

Аляксандр засмяяўся. Ён паклаў руку на плячо старому:

— Царква, дзядзька Цярэшка, тая ж цюрма для душы чалавека. А колькі зямлі папоўскай па ўсёй Расіі! Чыя яна? Наша! На фронце равуць грывастыя стаеннікі з крыжамі ў руках, забіваць бласлаўляюць, на смерць жывых саборуюць, а за што? От і мазгуй, чыя вера лепшая.

У ліхтары дагарала свечка. Вагон стукаў і рыпеў, зыбаючыся на стыках і стрэлках. За акном чарнела асенняя ноч. Аляксандр на самай верхняй паліцы ўгледзеў шчыгульныя хромавыя боты, што вытыркаліся з-пад афіцэрскага шыняля, цёмную патыліцу, а вуха і твар былі прыкрыты вайсковай фуражкай без какарды.

— Нейкае ваша благароддзе едзе ў наш бок,— кіўнуў на паліцу.

— Садзіўся аскубаны афіцэрык без палётаў, і гузікі сукном паабшываныя. Здэцца, з Ермаліцкай пароды. Як зашыўся ў Бабруйску, дык дасюль не чхнуў ні разу. Відаць, не ў свой вагон сеў,— адказаў стары Цярэшка.

Цягнік спыняўся каля нейкіх слабенькіх агеньчыкаў, чухкаў паравоз, знадворку чутна была лаянка асіплых галасоў. За акном праплывала жоўтая пляма ліхтара, спалохана вішчаў гудок, і зноў павольна ляскалі колы, калыхаўся састаў і поўз у цемрадзь.

У вагоне храплі, чухаліся і мармыталі спрасоння. Стаяў цяжкі дух разапрэлых ануч і аўчын, пякельнага самасаду і дзёгцю. У цёмных кутках дзядзькі гаманілі пра надзелы, пра казённы і панскі лес, пыталіся адзін у аднаго, ці надоўга тая слабода, ці не боязна дзяліць зямлю, каб потым гэта бокам не вылезла.

Аляксандр прыткнуўся на краёчку лаўкі, прыплюшчыў вочы, але не спаў. Ён прыслухоўваўся да ўсяго, пра што гаманілі. Сялянскія трывогі і няўпэўненасць былі зразумелыя яму: людзям не верылася, што зямля можа быць іхняй — скінулі цара, а паны як былі, так і асталіся, і той жа стражнік з мешалкаю пры боку хадзіў па сяле і не аднаго такога Цярэшку ні за панюх табакі загнаў у кутузку. От і баяцца яшчэ. А яны ж цяпер самі — сіла. Толькі адкрый ім вочы, каб паверылі ў сябе, каб зразумелі, што стрэслася ў свеце.

Аляксандр успамінаў усё, што бачыў і перажыў за гэты тыдзень. Няўжо прайшоў толькі тыдзень? Ён зірнуў на свае каляныя чаравікі. Здавалася, з іх яшчэ не атросся пыл петраградскіх вуліц, а шынель пахне дымам кастроў, што палалі ля Смольнага і на плошчы перад Зімнім. Ён бег разам з матросамі і салдатамі па гэтай плошчы, лез праз чыгунныя вароты, туліўся да шурак дроў, да мокрых сцен. Потым па мяккіх дыванах ступаў з прыступкі на прыступку, усё вышэй і вышэй, у такім бляску, што аж сляпіла вочы. Бачыў, як матросы выводзілі напалоханых чырванамордых міністраў у расшпіленых мундзірах і накінутых на плечы палітонах, як салдаты ў вялізных залах, у пераходах, калідорах і цёмных бакоўках шукалі Керанскага.

Круцілася ў галаве кола ўспамінаў: даўжэзныя гаманлівыя, поўныя салдат і матросаў калідоры Смольнага. Здавалася, ён і цяпер чуе бразгат вінтовак і кацялкоў, грукат падкаваных ботаў каравула.

Запомнілася, як з вялікіх дзвярэй, трымаючы ў руцэ доўгую тэлеграфную стужку, выставіўшы наперад плячо, нібыта разразаючы тугі вецер, прабег па калідоры невысокі з лысінаю чалавек. Усе расступіліся, давалі яму дарогу. Ён з некім вітаўся, нешта гаварыў і так, як з'явіўся, нечакана знік за высокімі дзвярамі. Услед за ім каціўся шэпт: «Ленін, Ленін пайшоў! Бачыў Леніна? Гэта ж ён».

Зноў нарастаў грукат прыкладаў і крокаў. Аляксандр прахапіўся. Стукалі колы. Насупраць, скурчыўшыся, як малое дзіця, спаў дзядзька Цярэшка. Храплі і мармыталі ў сне мужчыны і кабеты. Прыткнуўся шчакою да жалезнага прэнта і роўна соп Анупрэй. Толькі круціўся на мулкай паліцы «аскубаны» афіцэрык. Убачыўшы Аляксандра, ён прыкінуўся, што спіць.

Аляксандр прыхінуўся да акна, хацеў пазнаць, дзе яны едуць. Да чорнай шыбіны папрымярзалі снежныя крупы, пашарэла зямля, і больш нічога не было відно.

Так болей ён і не заснуў, аж пакуль не прыехалі ў Ратміравічы. Далей цягніку не было куды ісці — тупік.

Загуў, замітусіўся, загаманіў вагон. Свечка даўно дагарэла. Спрасонку ўсе таўкліся, штурхаліся, тыцкаліся, як сляпыя. З-пад ніжніх лавак сунуліся нечыя ногі, на іх наступалі тыя, што праціскаліся ў праходзе, спатыкаліся і лаяліся на чым свет стаіць, зверху на галовы спаўзалі клункі, лубяныя каробкі і торбы, ссоўваліся спіны ў кажушках і світках.

— Параска, га, Параска, дзе ты там? Ці не ў цябе мая торба?

— Куды прэш, каб табе паўлазіла!

— Мірон, уставай, прыехалі!

— От даваяваліся, што няма і свечкі,— гугнявіў сіпаты голас.

— І сноўдаемся, як тыя авечкі,— у лад яму адказала бойкая жанчына.

Але хутка ўсе агледзеліся: на дварэ сінеў халодны ранак, а ў акно свяціў жоўты станцыйны ліхтар.

Аляксандр пачапіў мяшэчак на адно плячо, перакінуў вітоўку і, калі схлынуў натоўп, падаўся да дзвярэй. За ім выйшлі Анупрэй і Цярэшка.

Гразь падшэрхла. На стрэхах і ў разорах бялеў першы кволы сняжок, нібы хто прысаліў зямлю. Пасля вагоннай цеснаты і распаранай духаты цела калацілі дрыжыкі, вецер ва ўсе бакі раздзімаў тонкі выцерты шынель.

Аляксандр падперазаўся і азірнуўся: вагоны апусцелі, у парадзелым змроку людзі разыходзіліся хто куды. Не відно было толькі афіцэрыка з верхняй паліцы.

Цярэшка здагадаўся, каго выглядае Аляксандр.

— Будзіў гэтага Ермальчука, а ён бытта апруцянеў.

— Дзе ты бачыў! Яму з намі не па дарозе. Хадзем, мужчынка

Размінаючы пругкія грудкі стылай гразі, яны ўтрох звярнулі на сцежку і спорна пайшлі праз густы ракітнік, што рос адразу за станцыяй. Пад нагамі шамацела хрусткае лісце.

Над вёскаю падымаліся белыя стаўбуны дыму, а ў акенцах пагойдвалася і дрыжала няроўнае святло — палілі ў печах. Крычалі пеўні, вішчалі парсюкі, рыпелі пры студнях вочапы. Пачынаўся сінявата-шэры ранак позняй восені.

Усе гэтыя гукі, гаркаваты пах дыму і прыгарэлай бульбы, нізкае неба і прыцярушаная першым сняжком зямля былі Аляксандру да шчымлівага болю знаёмыя і родныя. Ён успамінаў гэтыя краявіды ў акопах пад Перамышлем, у балотах Піншчыны, у Царскасельскім шпіталі. Яны мроіліся яму бяссоннымі начамі ў Смольным і часам не верылася, што зноў давядзецца хадзіць па родных сцежках.

Сем гадоў ён не быў дома, сем гадоў нічога не чуў пра бацьку і Марыльку, пра добрую і чулую мачаху. Усіх мачах звычайна лаюць і клянуць, а цётка Ганна была як родная маці — чатырох выгадавала. Яго, Петрыка і Косціка выправіла ў салдаты. Успомнілася, як праводзіла яго ажно да Парыч, усё нешта пхала ў торбу і галасіла, як па родным сыне.

Да вайны Алясандр служыў у Гатчыне, у кавалерыйскім палку, і тады-сяды палунаў ад бацькі кароткія пісьмы. Стары бедаваў, што цяжка адрабляць арэнду: Косцік яшчэ слабаваты, Марылька, хоць пруткая і добра ўлягае ў работу, але ж вельмі маладзенькая, і яе шкода залыгваць у ярмо, а Петрыка забралі ў салдаты. Пісаў, што Рагуля ацяліла бычка з белаю лысінкаю, і яны збіраюцца яго гадаваць. Бацькавы пісьмы пахлі роднаю хатаю, нагадвалі маленства ў Хлебавай паляне, цесную зямлянку на ўзлессі. Тады яшчэ жыла мама. Статная, бялявая і зусім маладая. Тата яе зваў Лавізаю. Сынок часам папраўляў яго:

— Не Лавіза, а Луіза наша мамка.

— А хіба не адно і тое? Лавіза яшчэ лягчэй.

Мама гаварыла па-латышску, спявала латышскія калыханкі і расказвала дзецям казкі далёкай Курляндыі. Часам заходзіў адведаць дзед. Высокі, крыху сагнуты, вусаты Крышан Якшэвіч. Ён зімою і летам насіў камізэльку з казловае кажушыны. Садзіўся на парозе цьмянай зямлянкі і моўчкі курыў. Відаць, нудзіўся па сваёй Курляндыі, шкадаваў, што дачку ззамаладу абселі дзеці, што б'ецца яна ад цямна да цямна на панскіх лядах, а дастатку і шчасця не відно.

Стары Крышан шанаваў свайго зяця Рамана за працавітасць, цвярозасць і сумленне. Любіў ён і ўнукаў, але нейкаю стрыманаю маўкліваю любоўю.

Аляксандру ўспаміналася, як вечарамі каля камінка бацька латаў хамут ці аброць і расказваў дзецям пра сваю маладосць, пра тое, як адразу пасля жаніцьбы пайшоў да панскага ўпраўляючага Ганса Хрыстафоравіча Мухеля сказаць, што кончылася яго і Луізіна парабкоўства. Ён папрасіў на першы час за адработкі, а як разжывуцца, у арэнду кавалачак зямлі.

— Зэмля нужна сдэлать,— адказаў сухапары немец.

Раман не разумеў, як можна «сдэлать» зямлю, і толькі моўчкі лыпаў вачамі.

— Рубіт лес, вірывайт корні, как его, пэнькі, пэнькі. Там — зэмля, хлебный зэмля, будэт хлебный паляна. Панімайт?

Так і згадзіліся. Раману за балацінаю адвялі кавалачак лесу. Удваіх з маладой жонкаю выкапалі зямлянку, накалолі плашак, абклалі імі сцены, з гліны збілі печ, яловай карою і дзёрнам прыкідалі страху і пачалі жыць. Валілі сосны, палілі лаўжы, хадзілі закураныя і паабдзіраныя, як чэрці. Падсякалі, абкопвалі, доўгімі вагамі выдзіралі пні, па некалькі разоў капанічылі кожны лапік дзірвану. Плуга ж не ўваб'еш у тое ламачча. А ўвосень пасеялі пуды са тры жыта. Першыя чатыры гады, пакуль карчавалі, арэнды Мухель не браў. На пяты год Раман збіраў па капейцы, па залатоўцы, каб аддаць Мухелю пяцьдзесят рублёў, на шосты — сто, а на сёмы — усе паўтары сотні.

Ступаючы ўскрай дарогі, Аляксандр глядзеў на заінелыя лугі і балаціны, на далёкія і блізкія лясы і думаў: «Цяпер гэта ўсё наша». З ім параўняўся дзядзька Цярэшка. Відаць, старому карцела пагаварыць, бо гамонячы ісці весялей і не так дарога сцягваецца. Ён кіўнуў галавою на абвіслы мяшэчак, што целяпаўся за Аляксандраваю спіною:

— Служыў, служыў, кажаш, хлопча, ваяваў, ваяваў і ў самым Піцеры быў, а торбачка, як вымя ў ялаўкі, матляецца.

— Тут, дзядзька, такое багацце — цаны яму няма. Усім хопіць.

Цярэшка падбег бліжэй, азірнуўся і шэптам спытаў:

— Няўжо золата?

Аляксандр толькі ўсміхнуўся.

— Можа і праўда ў царскіх пакоях наадкалупваў? Там жа, мабыць, і завесы і клямкі залатыя. Нааддзіраў бы з дзесятак, от бы і было на разжытак. Брэшуць ці не, што ў цара Мікалая гаршчок пад ложкам і той залаты быў.

— Брэшуць, дзед. Усё золата Мікалашка на снарады пераліў ды на генеральскія крыжы.

